# Людзі думаюць пра мову

Шаноўная рэдакцыя, газеты "Наша слова", з'яўляюся сталым чытачом Вашага выдання ўжо шмат гадоў. Шчыра кажучы, адноўленае "НС" не зрабілася больш цікавай газетай, і выпісваю яе больш дзеля падтрымкі. Але ў кожным нумары ёсць цікавыя артыкулы, і вельмі заўважныя намаганні рэдкалегіі зрабіць газету папулярнай, тым больш трэба ўлічваць што гэта выданне не для шырокага кола.

Вельмі падабалася мне "Аповесць пра словы", шкада што гэтая рубрыка знікла апошнім часам. З цікаўнасцю чытаю "З чужой моўнай практыкі..." П.Сцяцко. Дык вось, маю сваё слова, на якое хацеў бы адшукаць аналаг у беларускай мове. У адрозненні ад расейскай мовы, у беларускай кожнае ***масла*** мае свой адпаведны назоў. ***Сметанковае*** так і завецца — ***масла***, раслiннае — гэта ***алей***. А вось як быць з маслам, напрыклад для аўтамабільных рухавікоў? На мой погляд тэрмін ***масла*** тут не зусім падыходзіць. Бо з маслам сметанковым тэхнічнае не мае анічога агульнага, ні ў складзе, ні ў паходжанні, ні ў карыстанні. Што да алею, дык і ў яго з маторным маслам агульнае толькі тое, што яны вадкія. У астатнім тая ж сітуацыя што і са сметанковым.

Можна паспрабаваць знайсці падказку ў еўрапейскіх мовах. Беларуская мова таксама еўрапейская і мае цесныя сувязі не толькі са славянскімі мовамі (напр. у нямецкай мове і беларускай дах завецца аднолькава). Шмат слоў маюць адно паходжанне і падобнае гучанне ў беларускай, нямецкай, англельскай ды іншых мовах. Так ёсць і з маторным маслам: па-польску яно завецца ***olej***, па-нямецку — ***Ol***, па-ангельску — ***oil***. Беларуская мова, як і трэба было чакаць, мае свой адпаведнік — ***алей***. Але ж у нашай мове гэтае слова замацавалася ўжо, як абазначэнне расліннага масла, і да тэхнічнага не зусім падыходзіць.

Доўгі час, не адшукаўшы годнай замены, я карыстаўся менавіта гэтым словам — ***алей***. Хоць і адчуваў пры гэтым пэўны дыскамфорт. Але зусім нядаўна натрапіў на цікавае, і на маю думку ўдалае абазначэнне маторнага масла, якое сустрэў у кніжцы Кастуся Акулы. У сваім рамане "Змагарныя дарогі" пісьменнік карыстаецца тэрмінам ***аліва***. Гэта слова мае яўна роднасныя карані з аналагічнымі варыянтамі ў іншых еўрапейскіх мовах. І ў той жа час адрозніваецца ад беларускай формы ***алей***. Такім чынам, калі гэтае слова замацаваць у беларускай мове, кожны гатунак масла будзе мець свой, уласцівы толькі яму назоў.

Але можа нехта мае іншы погляд, будзе вельмі цікава даведацца, думаю што гэта будзе толькі на карысць нашай мове.

І на заканачэнне хачу пакінуць для абмеркавання яшчэ адну тэму. Размаўляючы па-беларуску, даволі часта я і мае знаёмыя сутыкнуліся з тым што ў беларускай мове няма добрага аналага расейскаму слову ***общаться***. Чаго толькі не прапаноўвалі, але ўсе варыянты былі нейкімі вузкімі, лакальнымі і не маглі абагульніць гэтае разуменне. Такім чынам вакансія так і засталася не занятай. Можа чытачы, альбо прафесійныя філолагі прапануюць нешта вартае. З цікавасцю буду чакаць іхніх прапаноў.

***Яўген Саляйчук, г.Пінск.***

# У Лідзе працягваецца год Адама Міцкевіча

**"ЗАЦВЯРДЖАЮ"**
**Начальнік аддзела адукацыі Лідскага гарвыканкама А.С. Мазоўка**
**"____" ________________ 1999 г.**

## ПАЛАЖЭННЕ
## аб гульні-конкурсе "Зямля пад беламі крыламі".

Краязнаўчая гульня-конкурс "Зямля пад белымі крыламі" прысвечана 200-годдзю з дня нараджэння А.Міцкевіча.

УДЗЕЛЬНІКІ.

Да ўдзелу запрашаюцца зборныя каманды навучэнцаў школ і іншых навучальных установаў горада, а таксама — каманда Лідскага раёна. Склад каманд і ўзрост удзельнікаў не абмежаваны.

ПРАГРАМА І ЎМОВЫ.

Гульня праводзіцца ў 3 этапы.

Этап І. Завочны. Час дзеяння — з моманту атрымання Палажэння да 11 сакавіка 1999г. Камандам-удзельніцам дасылаюцца заданні да выканання. Тэрмін выканання — не пазней 11.03.99г., 16.00. Адказы павінны быць пададзены ў адпаведнасці з умовамі. Хуткасць выканання заданняў не ўплывае на вынік. Адказы, якія пададзены пазней тэрміну не разглядваюцца.

Этап 2. Конкурс чытальнікаў. 18.03.99г. Месца правядзення будзе вызначана да 8 сакавіка. Умовы: адзін (некалькі) чалавек павінны прачытаць, альбо выканаць іншым чынам любы (на ўласны выбар) твор, альбо ўрывак з твора Адама Міцкевіча. Кантрольны час — 5 хвілін.

Этап 3. Літаратурна-музычная кампазіцыя "Жывілі ліру песні Наднямоння прысвечаная 200-годдзю Паэта. Падвядзенне вынікаў конкурсу-гульні.

ПАДВЯДЗЕННЕ ВЫНІКАЎ.

Каманда-пераможца вызначаецца па суме месц у чатырох конкурсах гульні: сачыненне, газета, разгадванне крыжаванкі (завочны этап) і конкурса чытальнікаў.

Каманда-прызёр (заняўшыя 1-5 месцы) ўзнагароджваюцца ўдзелам у турысцкай паездцы па мясцінах, звязаных з жыццём і творчасцю А.Міцкевіча. Колькасць удзельнікаў у паездцы павінна быць не больш 6 чалавек ад каманды (5 навучэнцаў і адзін кіраўнік).

ЗАЯЎКІ. Заяўкі на ўдзел патрэбна падаць не пазней 18.02.99г. па тэл. 2-92-12. (Цэнтр дзіцячага турызму).

АРГКАМІТЭТ

**УМОВЫ КОНКУРСАЎ ГУЛЬНІ "ЗЯМЛЯ ПАД БЕЛЫМІ КРЫЛАМІ"**

Этап І. Завочны.

Конкурс сачыненняў. Тэма — "Шляхамі паэта". Форма адвольная. Памер тэксту — не больш 1,5 друкаваных старонак фармату А4 з інтэрвалам паміж радкамі 1,5.

Конкурс газет. — "Адам Міцкевіч і яго эпоха". Форма — адвольна. Найменшы памер газеты — стандартны аркуш паперы фармату 60х85 см.

Конкурс "Крыжаванка". Тэма — "Адам Міцкевіч". Усе пытанні прама, ці ўскосна звязаны з імем Адама Міцкевіча (яго жыццевы шлях, творчасць, мясціны, якія звязаны з ім, геаграфія, гісторыя, круг яго знаёмых, а таксама — падзеі і асобы таго часу — першая палова 19 ст. Вынікі конкурсу падводзяцца згодна ступені яго разгаданнасці /%/.

Сачыненне, газету і разгаданую крыжаванку патрэбна дасылаць у аргкамітэт (Цэнтр дзіцячага турызму) не пазней 11.03.99г. Адказы, дасланыя са спазненнем НЕ РАЗГЛЯДВАЮЦЦА.

АРГКАМІТЭТ.

***P.S. Лідскі цэнтр дзіцячага турызму фактычна стаў трэцяй буйной арганізацыяй пасля ТБМ і ТБШ, якая ўступіла ў актыўнае змаганне за беларускую мову ў Лідзе. Усе конкурсы праводзяцца толькі па-беларуску і маюць выключна нацыянальную скіраванасць, а формы працы пераводзяць ужытак мовы ў зусім новыя, жывыя, цікавыя плоскасці.***

# "З чужой моўнай практыкі..."

Працяг

**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

***Дастасоўны, дастасавальны, ужытковы і прыкла`дны.*** Слова ***прыкла`дны*** ТСБМ (Т.1.Мн.,1980.С.437) тлумачыць так: "Які мае чыста практычнае значэнне, прымяняецца на практыцы. ***Прыкладныя*** навукі. ***Прыкладная*** электратэхніка. ***Прыкладное*** мастацтва. Аднак з значэннем "прымяніць на практыцы" у беларускай мове звычайна выкарыстоўваецца дзеяслоў ***ужыць (ужываць)***, які ў ТСБМ (Т.5.Кн.,1983.С.624) характарызуецца наступным чынам: "***Ужыць***:..зак., што. 1.***Прымяніць*** што -н. для чаго-н., з якой-н. мэтай// Знайсці прымяненне чаму - н. Ёсць дзе спецыялісту ***ўжыць*** свае веды. 2. ***Выкарыстаць, скарыстаць, прымяніць*** дзе -н.// Выкарыстаць на пісьме, у мове, абыходжанні і пад." Ад дзеяслова ***ужыць*** і дзеепрыметнік прошлага часу (з суфіксам -т-) ***ужыты***, ад якога ўтварыўся назоўнік ***ужытак*** з значэннем "***прымяненне, выкарыстанне*** ў штодзённым жыцці" (Тамсама). Ад гэтага назоўніка з дапамогаю прадукцыйнага суфікса ***-ов-*** утварыўся прыметнік ***ужытковы*** "які часта, шырока ***ўжываецца***". Апошнім часам ён замяняе слова ***прыкладны***. На старонках РБС-93 ужо чытаем: "***Прикладной — прыкладны; ужытковы; прикладное исскуство — прыкладное (ужытковае) мастацтва***" (Т.2.С. 781).

У літаратурнай мове з значэннем ***прымяніць*** бытуе таксама слова ***дастасаваць***. У "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы (Т.І.Мн.,1988.С.367) чытаем: "***Дастасаваць*** (да чаго) сов. ***применить*** (к чему); (теорию и т.п. — ещё) ***приложить*** (к чему); ***дастасаваць*** тэорыю да практыкі ***приложить*** теорию к практике". Ад яго ўтварыўся і прыметнік ***дастасавальны*** — ***применимый*** (Тамсама).

Як паказваюць матэрыялы слоўнікаў, найбольш адэкватным эквівалентам рас. ***прикладной*** (утварэнне ад ***прикладывать — приложить***) і ёсць ***дастасавальны*** і яго карацейшы словаўтваральны варыянт — ***дастасоўны***. Гэтыя словы — ***дастасоўны*** і ***дастасавальны*** актыўна выкарыстоўваецца ў нацыянальным друку. Вось некаторыя прыклады: "Пасля сканчэння каланіяльнай эры, калі ***дастасоўная*** антрапалогія апынулася ў такім незайздросным становішчы, спецыялісты гэтай галіны навукі засталіся толькі ў каледжах і ўніверсітэтах". (Майкл Говард. Сучасная культурная антрапалогія. Навуковае выданне. Мн.; Тэхналогія. 1995.С.416). У ***дастасоўнай*** працы адкрытая прапаганда звычайна не вядзецца" (Тамсама.С.418). У аснову стварэння беларускіх назоваў хімічных элементаў пакладзены патрабаванні Камісіі ІРАС — міжнароднага саюза тэарэтычнай і ***дастасоўнай*** хіміі, распрацоўкі Тэрміналагічнай камісіі Інстытута беларускай культуры..." (Наша слова.1994.№46).

Такім чынам, замест штучнага ***дэкаратыўна-прыкладное*** мастацтва мусіць быць ***дэкарацыйна-ўжытковае*** ці ***дэкарацыйна-дастасоўнае*** мастацтва.

***Узаеміны і ўзаемаадносіны.*** Слова ***ўзаемаадносіны*** ўсведамляецца як калька з рас. ***взаимоотношения***. Апошнім часам на месцы гэтага грувасткага складанага слова стала выкарыстоўвацца простае (аднакаранёвае) ***узаеміны***: "***Узаеміны*** з абшарнікам часта былі карэктныя або нават добрыя" (Беларускі гістарычны агляд. Т.4.Мн., 1997.С.57) "Я прачытаў заметку пра ***ўзаеміны*** Пушкіна і Міцкевіча" (Наша слова. 12.08.1998.С.4). "Г. Твარановіч стараецца не прамінуць ні адзін факт як культурных, так і прыватна чалавечых ***узаемін***" (Полымя. 1998. №5.С.313). ***Узаеміны*** зафіксаваў ужо В. Ластоўскі: "У іх ужо здаўна такія ***ўзаеміны***" (Падручны расійска-крыўскі(беларускі) слоўнік. Коўна, 1924,С.63).

Ведае гэтае слова і ўкраінская мова. Утварылася яно з дапамогай суфікса ***-ін-ы*** ад ***узаемны***: ***узаем(ны)-іны***. Утварэнняў з суфіксам ***-ін-ы(-ын-ы)*** у беларускай мове шмат. (Гл. артыкул "Народзіны").

Ёсць падставы меркаваць, што гэтае вельмі эканомнай структуры і выразнае сэнсам слова ***ўзаеміны*** замацуецца ў слоўніку літаратурнай мовы.

***Век і ўзрост.*** Слова ***век*** з значэннем рас. ***возраст*** фіксаваў ужо БРС-26(с.57). Расейскае ***возраст*** — пазычанае з старaславянскай мовы. Наш першы акадэмічны слоўнік перакладае яго толькі словам ***узрост***: "***Возраст — узрост***; зрелый ***возраст*** — сталы ***ўзрост***; одного ***возраста*** — аднаго ***ўзросту***" (РБС-53.С.67). Другое яго выданне — РБС 82 — фіксуе як эдэкватнае і слова ***век***: "***Возраст — узрост, век***; зрелый ***возраст*** — сталы ***ўзрост*** (век); одного ***возраста*** — аднаго ***ўзросту (веку)*** (Т.І.С.116). Поўнасцю паўтораны гэты лексіграфічны артыкул і ў "Русско-белорусском словаре" 1998г. (Т.І. С.201). Занатавалі яго і тлумачальныя слоўнікі, а таксама БРС-62 і БРС-88. Надта прыемна, што гэтае слова выкарысталі і пры ўтварэнні складання ***даўгавечнік*** як дублетнага да калькаванага ***доўгажыхар*** (<рас. ***долгожитель***). Яго падае РБС-82 (Т.І.С.220): "***Долгожитель — доўгажыхар, даўгавечны, даўгавечнік, долгожительница — доўгажыхарка, даўгавечная, даўгавечніца***". Прадублявалі гэта і РБС-93, РБС-98. Аднак чамусьці натуральнае слова ***даўгавечнік,*** як аднаслоўны адпаведнік аналітычнай назвы ***даўгавечны*** (жыхар) падаецца толькі як гутарковае (размоўнае), а штучнакалькаванае ***доўгажыхар*** (доўгі жыхар?!) як агульнаўжывальнае. Гэтую недарэчнасць бачым і ў новым "Тлумачальным слоўніку" (Мн.,1996.С.172). Аднак сучасны нацыянальны друк амаль не карыстаецца гэтым штучным ***доўгажыхар(ка)***, хоць раней у друку было толькі гэтае слова. І слова ***ўзрост*** панавала ці не як адзіны адэкват рас. ***возраст***, а ***век***, хоць і зафіксаванае ў слоўніках, але не выкарыстоўвалася (бо не спрыяла набліжэнню моваў).

***Праўдзівы і сапраўдны.*** Слова ***сапраўдны*** больш кніжнае ("робленае") слова. У жывой народнай мове яго функцыю нярэдка бярэ на сябе слова ***праўдзівы*** — больш блізкае да сваёй існасці, выражанай словам ***праўда***. Так, у народзе пачуеш: "Гэта ***праўдзівыя*** дачнікі, а не злодзеі. Збіралі адно ***праўдзівыя*** грыбы". Баравікі нярэдка так і называюць — ***праўдзівыя*** грыбы ці ***праўдзівікі.***

***Гуртавы і аптовы (гандаль), гуртавік і аптавік.*** Слоўнікі 20-х гадоў з значэннем ***аптовы*** падавалі слова ***гуртавы***: "***Гуртавы — оптовый, обший***" (БРС-26.С.85), "***Оптовый — агульны, агульніцкі; гуртовы. Агульніцкая*** крама, у якой прадаюць тавары не ў раздроб, а ***агулам, гуртам***" (ПРК (б) С.с.416). "***Опт*** м. прадажа ***агулам; агул, агулам; гурт, гуртам*** " (Тамсама).

З значэннем "група якіх-н. аднародных падметаў" слова ***гурт*** занатаваў і "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.2. Мн., 1978.С.98). Слова ***гурт*** мае шмат аднакаранёвых лексемаў: ***гуртаванне, гуртавацца, гуртаваць, гуртавы, гуртаўшчык***. Усё гэта робіць яго зразумелым і звычным і ў спецыялізаваным выкарыстанні (чаго не скажаш пра слова ***оптам*** і ***аптовы***). З гэтае прычыны ***гуртавы*** і ***гуртавік*** набывае актыўнасць у сучасным нацыянальным друку. "Было размежаванне між гандлярамі краёвымі і замежнымі ***гуртавікамі***(Язэп Найдзюк, Іван Касяк. Беларусь учора і сяньня. Мн., 1993. С.26).

*(Працяг у наступным нумары)*





# Перапіс - ці гульня ў інтэграцыю?

Як вядома з 16 па 23 лютага ў Беларусі праводзіўся перапіс. Здавалася б - што тут кепскага? Але перапіс ідзе ў сувязі з падзеямі такога кшталту, як, напрыклад, апошні рэферэндум у нашай краіне, які з-за яўных фальсіфікацый не прызнаны краінамі Еўропы, масавы перавод беларускага навучання на рускамоўнае, паступовая замена беларускамоўных шыльдаў рускамоўнымі і гэтак далей. Напэўна несур'ёзна думаць, што Лукашэнка, як Прэзідэнт краіны не ведаў, ці не ведае вынікаў мінулага перапісу 1989 года, але ў тэлепраграме РТР "Подробности" ен заявіў "... у нас сегодня процентов 25 наверное живёт чисто русских людей, ещё 25 - это перемешанная кровь: русские, белорусы и так далее... у нас наверное процентов 10-12 живёт поляков, т.е. удельный вес небелорусского населения значительный. Евреев у нас меньше, много выехало, но тоже очень много живёт их, очень много...". Ці не вынікі цяперашнега перапісу назваў Лукашэнка? Але зразумела, як і ад ранейшых дзеянняў улад, беларусам нічога добрага чакаць не выпадае. Давайце параўнаем лічбы мінулага перапісу 1989 года і лічбы з інтэрвію Лукашэнкі. У 1989 годзе насельніцва Беларусі было 10,3 мілёна чалавек. Роднай мовай назвалі беларускую 74,5 %, беларусаў было 77,9 % ад агульнай колькасці насельніцтва.

| **Па дадзенных перапісу 1989 года** | | **Паводле дадзеных А. Лукашэнкі** |
|---|---|---|
| рускіх | 13,2 % | "наличие чисто русских людей 25%", |
| палякаў | 4,1 % | 10-12 %, |
| яўрэяў | 1,1% | "очень много", |
| украінцаў | 2,9% | --- |
| іншых | 0,8%. | "смешанная кровь" 25% |

Калі прыняць "на веру " лічбы Лукашэнкі, то атрымліваецца, што ў апошнія 10 гадоў, на Беларусь адбывалася вялікая міграцыя палякаў, "чисто русских людей", рэпатрыяцыя яўрэяў з Ізраіля, а так сама масавы выезд беларусаў - цікава куды? Мяркую для жыхароў Беларусі гэта сталася адкрыццём. А калі без жартаў, то дзеяннямі сённяшніх улад Беларусь ператворана ў адстойнік афра-азіятаў і ўцекачоў з гарачых кропак СНД і іншых. Дастаткова заглянуць на Камароўку, яны адчуваюць сябе на нашай зямлі гаспадарамі. Нашы памежнікі абараняюць ад іх краіны Захаду, затое ўсходняя мяжа з Расіяй, праз якую яны да нас накіроўваюцца з наркотыкамі, СНІДам, злачыннасцю для іх гасцінна адчынена. Можа гэта палітыка праводзіцца для змянення працэнтнай колькасці беларусаў на сваёй спрадвечнай зямлі? Чым яшчэ можна растлумачыць такія дзеянні ўладаў.

Незразумела таксама, што такое "чисто русские люди" і "смешанная кровь". Дарэчы што гэта за словазлучэнні такія? З лексікону РНЕ? Як могуць вызначаць чысціню сваёй крыві нашы людзі? Калі толькі адзінкі могуць назваць свой радавод напрыклад да пятага калена, а большасць не ведае, хто былі іх прадзеды. Асабліва ў рускіх, пасля 300 гадоў мангола-татарскага іга і на працягу стагодзяў сумеснага пражывання з башкірамі, татарамі і іншымі цюркскімі народамі?

Таксама, калі ў каго-небудь продак быў чэх ці латыш, то ён ужо не можа быць беларусам і павінен запісацца "смешанная кровь"?

Дарэчы, калі грамадзяне ЗША маюць права ведаць аб сваім Прэзідэнце ўсё - нават інтымнае жыццё, то чаму грамадзяне Беларусі не ведаюць, хто ў іх Прэзідэнта бацька і маці, адкуль яны? Гэта што дзяржаўная тайна, як жа тады сам Прэзідэнт вызначае сваю кроў?

Што тычыцца моўнага пытання, то ўсе рэкламныя плакаты прысвечанныя перапісу насельніцтва надрукаваны толькі па-руску. Вось вам абразчык двухмоўя па-беларуску. Бланкі анкетаў на беларускай мове былі надрукаваны толькі пасля таго, як гэта пытанне было паднята ў незалежнай прэсе.

Пасля надрукавання ў газетах закліку ТБМ з просьбай паведамляць аб парушэннях і недабрасумленнасці з боку лічыльнікаў на нас навалілася хваля званкоў ад грамадзян. У асноўным людзі скардзяцца, што перапісчыкі не маюць, ці не прапануюць бланкі на беларускай мове. Па дадзеных вынікаючых з паведамленняў самі лічыльнікі не забяспечаны беларускімі бланкамі. Напрыклад з Брэста быў накіраваны факс чалавекам, як ён прадставіўся "рускім па нацыянальнасці "- Генадзем Самойленкам. Калі да яго прыйшоў лічыльнік, Генадзь папрасіў беларускі бланк, але яму, ў парушэнні яго правоў, такі бланк не быў прадстаўлены. Таму ён адмовіўся ўдзельнічаць ў такім перапісе. Часта распавядаюць аб тым, што лічыльнікі запісваюць у графе "родная мова" замест беларускай мовы - рускую. Па дадзеных ТБМ з Барысава ад Салаша Сяржука паступіла паведамленне, што ў вайсковай частцы "Печы" лічыльнік - капітан Трусаў пад пагрозай дысцыплінарнага пакарання прымушаў салдат насуперак іх жаданню называць роднай рускую мову, аргументуючы тым, што іх інструктавалі, што родная мова тая, на якой вучыўся ў школе. З горада Іванава паступіла паведамленне ад Прадуна Васіля Андрэевіча 1947 г. н., што 17 лютага да яго 77-ці гадовай маці прыйшла перапісчыца Бартош Валянціна Канстанцінаўна і запісала роднай мовай рускую, хаця яго маці ніколі не размаўляла на ёй, а размаўляе на заходня-палескім дыятекце беларускай мовы. На пытанне, чаму Вы так запісалі, яна адказала - нам так сказалі пісаць. Зразумела, што паступіўшая ў ТБМ інфармацыя зусім невялікая частка, стаўшых вядомымі парушэнняў.

Магчымасці фальсіфікацыі, ўлічваючы мінулы рэферэндум, у сённяшніх улад неабмежаваныя. Хто можа іх пракантраляваць? Падазраю што могуць быць аб'яўлены любыя патрэбныя ўладам лічбы. Дагэтуль улады не звярталіся да ТБМ з просьбай аб дапамозе ў правядзенні перапісу і ўдзелу ў рабоце лічыльных камісій.

***Сябра Сакратарыяту ТБМ Алесь Гурыновіч.***

*P.S. Пададзеныя факты з'яўляюцца толькі невялікай часткай матэр'ялаў якімі валодае ТБМ, звязаных з парушеннымі пры правядзенню перапісу.*

# Блізкая гісторыя
# Паўсядзённае жыццё ў Беларусі 1945 — 1965

20 лютага ў фестывальным цэнтры "Акварыюм" адбылася не зусім звычайная імпрэза: ганараванне пераможцаў конкурсу для школьнікаў "Паўсядзённае жыццё ў Беларусі. 1945 — 1965".

Конкурс быў абвешчаны на пачатку травеня 1998г. Вынікі конкурсу абвешчаныя 8 студзеня 1999 г. Удзел у конкурсе маглі узяць навучэнцы сярэдніх школ ды іншых сярэдніх навучальных установ, пачынаючы ад 7 класа ўключна.

Арганізатарамі конкурсу сталі: Архіў Найноўшай гісторыі (створаны Беларускім Гуманітарным Фондам "Наша Ніва") пры ўдзеле Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны пры падтрымцы Фундацыі Стэфана Баторага і пры метадычнай дапамозе Цэнтру KARTA (Варшава).

У раду і журы конкурсу ўвайшлі такія выбітныя людзі, як Уладзімір Арлоў, Сяргей Дубавец, Алег Трусаў, Алег Дзярновіч ды іншыя не менш вядомыя ды таленавітыя дзеячы беларускага адраджэння.

Упершыню разам з самімі пераможцамі ганараваліся і апекуны працы: бацькі, настаўнікі, тыя людзі, якія дапамагалі школьнікам у гэтай надзвычай нялёгкай рабоце.

Удельнікі конкурсу, якія былі ганараваныя трэцяй узнагародай, атрымалі дыктафоны SONI, ушанаваныя другім месцам удзельнікі конкурсу атрымалі фотаапараты і дыктафоны, а пераможцы конкурсу, якія былі ганараваныя першай узнагародай, такіх было чатыры чалавекі, атрымалі супер-прызы: мультымедыйные кампутары. Акрамя таго, усе пераможцы конкурсу атрымалі шэраг кніг вядомых беларускіх аўтараў, касеты беларускай музыкі ды падпіску на некаторыя беларускія выданні.

Пасля афіцыйнай часткі адбылося частаванне удзельнікаў імпрэзы і канцэрт беларускіх рок-гуртоў.

У бліжэйшай будучыні плануюцца супольныя праекты конкурсаў такога кшталту разам з польскім ды украінскім бокам. Рэдакцыя газеты "Наша слова" плануе надрукаваць найбольш цікавыя і арыгінальныя працы. Падрабязныя вынікі конкурсу чытайце на ст.4.

***Лілея Сазанавец.***

## "Беларусам буду жыць..." (П.Макаль)

Дарагая рэдакцыя!

Як вядома, сёлета з 16 па 23 лютага праводзіўся перапіс насельніцтва на Беларусі. Праз нейкі час мы даведаемся яго афіцыйныя вынікі. Добра ведаючы адносіны цяперашніх уладаў да беларушчыны, на маю думку, будуць пераможныя "ўрачыстасці", "фанфары" аб павышэнні "русістасці" у нашай краіне. Я не хачу, каб мяне залічылі ў кагорту "абрусчаных" і вось па гэтай прычыне хачу расказаць, як праводзіўся перапіс у нашым доме па вуліцы Пляханава ў Менску. Магчыма, што такія факты мелі прапіску па ўсёй Беларусі.

20 лютага мне пазванілі ў дзверы: "Перепісь населенія". Я сустрэў па-беларуску: "Добры дзень! Заходзьце , калі ласка! Праходзьце ў залу. Сядайце ў крэсла". Перапісчыца старалася гаварыць русей за рускіх (можа такі ў іх быў інструктаж), але ж атрымлівалася звычайная руска-беларуская "трасянка". Крыху пазней я зрабіў заўвагу, што ў гэтым праяўляецца непавага да мяне. Да яе гаворкі прэтэнзіі не маю. Яна проста паказала сваё безкультур'е. Калі я папрасіў паказаць пасведчанне перапісчыка, яна прасунула мне вялікую скураную папку памерам, як ранец школьнікаў, з вялікім чырвоным бээсэсэраўскім каланіяльным гербам. Я двойчы паўтарыў сваю просьбу. Нарэшце, атрымаўшы патрэбны дакумент, выпісаў - Бабух Наталля Васільеўна. З самага пачатку я звярнуў увагу, што рускамоўны апытальны ліст ужо мае адзнакі шарыкавай ручкай сіняга колеру і патрабаваў неадкладна замяніць. Заменены ліст таксама меў адзнакі ручкай. Зноў замена —і такі ж вынік. Тады зноў больш рашуча патрабаваў адшукаць апытальны ліст на беларускай мове. Перапісчыца выканала. На беларускамоўным бланку ніякіх адзнакаў не было, ні ручкаю, ні алоўкам, абсалютна ніякіх. У час правядзення майго перапісу я назваў сваё прозвішча, імя. "Отчество" я не называў, бо гэта не адпавядае нашай старой нацыянальнай традыцыі. Як нарадзіўся, так і запісаўся беларусам. Родная мова - беларуская. Раней карыстаўся "трасянкай". Але ж, апошнія дзесяць гадоў думаю, гавару, чытаю і пішу толькі па-беларуску ( на працы, дома, усюды). Другой сваёй мовай запісаў украінскую, што вельмі здзівіла Наталлю Васільеўну. Нават, запытала: "Как, владеете?" "Пастаянна слухаю ўкраінскае радыё", - адказаў я. Вельмі ўжо хацелася прычапіць да мяне хоць цюцельку русістасці. А можа, такі быў інструктаж, запісваць усіх рускімі. На бланку пытанні былі расстаўлены так хітра, што рускую мову тут ніяк не абмінуць. Пэўна, працэнт русістасці быў запраграмаваны. Развіталіся мы па-беларуску. " Да пабачэння!" - сказала Наталля Васільеўна. "Бывайце здаровы!" - адказаў я.

Гэты дзень прайшоў для мяне ў сумным роздуме. Паступовае вынішчэнне культурнай спадчыны беларусаў, перш за ўсё мовы, і замена ўсяго рускім робіць нас беларусаў усё больш і больш падобнымі да рускіх, ажно да поўнага растварэння ў чужым навязаным асяроддзі. Такое падабенства неабходна рускім каланізатарам, каб наша беларускае называць сваім, рускім. Гэта прысваенне ўсяго нашага.Гэта спроба крамлёўскіх інтэгратараў рана ці позна прад'явіць тэрытарыяльныя прэтэнзіі да нашай роднай Беларусі, да нашых багаццяў, ды і нас саміх ператварыць у парабкаў у сваім Доме. Нейкае падабенства аўстрыйцаў да немцаў скарысталі гітлераўскія нацысты, якія, пагуляўшы ў рэферэндум, у сакавіку 1938 года акупавалі Аўстрыю.

Нацыянальная пераарыентацыя беларусаў, аб чым можа сведчыць метад правядзення перапісу, - гэта пэўны крок да поўнай анексіі нашай Бацькаўшчыны. Маўляў, тут рускія і там рускія - трэба аб'ядноўвацца. Падабенства беларусаў да рускіх рабілі царскія і бальшавіцкія кіраўнікі больш двух вякоў. Каб паскорыць "інтэграцыю"-акупацыю беларусаў вырашылі запісваць рускімі, каб павялічыць іх удзельную колькасць на Беларусі.

Я вырашыў да канца дзён маіх захаваць вернасць нашай роднай Беларусі. Ніякія перапісчыкі не зробяць мяне манкуртам. Мяне могуць забіць, а вось рускім не зробяць ніколі. Закончыць я хачу словамі з верша П. Макаля:

"Беларусам я раздіўся,
Беларусам буду жыць,
Беларускую старонку
Буду шчыра я любіць..."

***Галай Аркадзь. Рабочы. Менск***

## Паважаныя кіраўнікі Таварыства беларускай мовы

Раскажу Вам, як мяне перапісвалі. Першы раз перапісчыца прыйшла да мяне 18 лютага 99г. днём, але ў гэты час я быў на працы і сустрэча не адбылася. На наступны дзень вечарам мне дадому быў званок і жаночы голас паведаміў мне, што праводзіцца перапіс насельніцтва і яна жадае ўзяць па тэлефону некаторыя звесткі. Я здзівіўся і сказаў, што так праводзіцца ананімнае апытаннее насельніцтва, а не перапіс і так, як я не бачу, з кім размаўляю і не бачу, што пішуць пра мяне. Я папрасіў зайсці асабіста, і я дам усе звесткі. 21 лютага да мяне прыйшла жанчына і, як потым высветлілася, яна працуе ў суседняй школе, але яна ніякага дакумента не пакказала. Я проста паверыў на слова. Яна выцягнула аркуш для перапісу, дзе ўсе пытанні на самім бланку надрукавны на расейскай мове і пачала запаўняць на расейскай мове. Я папрасіў пісаць усе звесткі на беларускай мове і яна пачала гэта рабіць. Але я папрасіў усе звесткі пра мяне пісаць на бланку, надрукаваным у друкарні на беларускай мове. Такога бланка ў яе не аказалася і яна была ў разгубленасці. Яна патлумачыла, што такіх бланкаў зусім не бачыла ні ў кога, але яна даведаецца што рабіць і дадала, што калі такіх бланкаў не будзе, то ці буду я ўдзельнічаць у перапісе? Я адказаў, што не.

Перад адыходам яна спытала: "Ці буду я ўдзельнічаць у выбарах у мясцовыя саветы" — і я сказаў "не", але патлумачыў чаму.

Якую выснову з гэтага можна зрабіць. Добрую справу перапіс насельніцтва можна апаскудзіць і апаганіць. І вось чаму. Вашая арганізацыя неаднаразова ставіла пытанне, каб перапіс вёўся і на беларускай і на расейскай мове і нават лепей было б, каб усё рабілася на беларускай мове, але ўлады ўпарта не жадаюць гэтага рабіць. Больш таго, яны проста навязваюць расейскую мову. Гэта я заўпарціўся і паставіў цвёрда пытанне, а колькі не захацела ісці на гэты канфлікт. Ідзе яўная русіфікацыя справакаваная дзяржавай. Я расеец, але я супраць такіх нечыстаплотных прыёмаў з боку дзяржавы. Гэта яўны генацыд беларускага народа, і як чалавек са здаровай свядомасцю я ў такім фарсе ўдзельнічаць не хачу.

***Берасце. Мікрараён Вулька.***
***Генадзь Самойленка.***

Колькі словаў пра перапіс насельніцтва. Гэтая акцыя (інакш і не назавеш) сталася праверкай ейных арганізатараў на элементарную павагу ў дачыненні да ўсяго беларускага.

На жаль, мудрасці на элементарнае не хапіла.

Да мяне ў дом падлікоўца прыйшоў без беларускамоўнага бланка. Яму іх папросту не выдалі. Дарэчы, па словах падлікоўца пра беларускамоўныя бланкі пыталіся і да мяне.

І хоць у маім выпадку расейскамоўны бланк быў запоўнены па-беларуску, засталося прыкрае ўражанне, нібы да цябе дакрануліся чымсьці нячыстым. А завецца гэтае "чымсьці" — перапіс насельніцтва ўзору 1999 года.

***М.Г. Менск***

"... каб не ўмёрлі!"

# "Сорам за сябе!"

**(Аб выніках конкурсу творчых работ "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай...")**

"Беларусь! Беларусь! Калі ж мы ўсе, хто жыве пад яе высокім небам, зразумеем: без беларускага слова Беларусі няма і не можа быць. Без беларускага, — удакладняе і падкрэслівае далей выпусніца СШ № 143 г.Менска Вольга Баркоўская, — дзяржаўнага слова ў поўным сэнсе гэтага слова. За доўгія стагоддзі мы прывыклі, што нашай мове адводзілася зусім іншая роля — роля, якая асуджала яе на паступовае адміранне і пагібель. Небяспека гэтай яе смерці, а значыць і смерці самой беларускай нацыі не адпадзе ні сёння, ні заўтра, пакуль яна, наша мова не стане ў поўным сэнсе дзяржаўнай, такой як расейская ў Расеі, польская ў Польшчы і г.д. Калі яна не запануе ва ўсіх сферах жыцця нашага народа, не будзе свабодна і натуральна гучаць паўсюдна.

На вялікі жаль, гэтай ісціны не хочуць зразумець многія людзі..."

Сапраўды, гэта ісціны. Размова ідзе аб цывілізаваных нормах жыцця, агульначалавечых каштоўнасцях. І як прыемна, што гэта разумеюць дзеці і імкнуцца знайсці такія словы, каб прымусіць задумацца, а то і пераканаць дарослых, сярод якіх сустракаюцца цынікі, манкурты, што заяўляюць на чужой мове з беларускім акцэнтам аб нікчэмных магчымасцях матчынай мовы. Вольга Баркоўская пярэчыць: "Наша родная, наша цудоўная беларуская мова! Адна з самых прыгожых і мілагучных моў не толькі ў славянскім свеце, але і на абшарах заселенай людзьмі планеты. Па дадзеных статыстыкі яна займае другое месца па мілагучнасці пасля італьянскай. І ёй няма чаго саромецца ні перад якою мовай ў свеце. Яе магчымасці невычарпальныя, і таму ёй жыць вечна!

Беларуская мова... вельмі моцны дапаможнік для разумення астатніх славянскіх моў."

Людзміла Марачкіна з вёскі Сідаравічы Магілёўскага раёна, якая марыць стаць настаўніцай беларускай мовы, пагаджаецца з папярэднім аўтарам і дапаўняе: "Прыедуць дамоў (вясковыя хлопцы з Магілёва — А.Л.) па беларускае сала, па беларускую бульбу, на беларускія грошы і смешна вымаўляюць родныя словы на расейскі лад, яшчэ смяшней вымаўленне расейскіх слоў з беларускім акцэнтам, дзеканнем і цеканнем. Перамагаюць ад гарадскіх не толькі расейскія словы, але і гультайства...

Калісці Парфіяновіч з Магілёва выдаў царскім служакам, Мураўёву-вешальніку, выдатнага сына Беларусі, змагара за свабоду і шчасце народа Кастуся Каліноўскага. На жаль, шмат парфіяновічаў і зараз..." Справядліва абураецца далей аўтар: "Дык чаму ж майму народу насаджваюць з дзяржаўных пазіцый двухмоўе? Пакуль што Беларусь не калонія Расеі, каб на ўзроўні беларускай мовы вывучаць і расейскую..."

Падобныя думкі выказвае і адная- скоўка Алёна Новікава, але ў паэтычнай форме, вершам "Нам дадзены вялікі дар ад Бога..." Вось адна страфа:

***На беларускім жа працоўным карку***
***Сядзіць даўно з пражорлівым пузтом***
***Чыноўнік абруселы, ладзіць сварку —***
***Ядпае лапаць з рускім сапагом...***

Дзясяткі, сотні дзіцячых лістоў. І ў кожным боль, здзіўленне, сорам, перакананні...

"Калі паедзеш за мяжу, дык адразу заўважыш, — піша Ганна Фокіна з Маладзечна, — што нармальныя людзі размаўляюць на сваёй мове. А мы, беларусы, сваёй роднай мовы не паважаем і не прызнаём. Сорамна за сябе!.."

Усяго на адрас ТБШ прыйшло каля тысячы творчых работ розных жанраў. Асабліва вызначыліся актыўнасцю вучні Менскай вобласці (каля 200 работ) і г. Менска (150), затым гэты шэраг працягваюць вобласці ў наступным парадку: Гомельская, Берасцейская, Віцебская, Гарадзенская і Магілёўская (48 работ). Найбольш лістоў прыйшло з Гомеля (39), Клецкага (31), Барысаўскага (25), Маладзечанскага (12), Жлобінскага (13), Пінскага (14), Аршанскага (20), Докшыцкага (13), Лідскага (15), Смаргонскага (12), Мсціслаўскага (9) раёнаў.

Не змаглі ўтрымацца і дарослыя, каб не выказаць свае пачуцці. Настаўніца біялогіі з Полацкага раёна, кіраўнік клуба "Духоўнае адраджэнне" Ванда Дзярбенька ў вершы "Духоўны Чарнобыль" ускліквае:

Не, не, не!
Мова наша не згіне.
Карані ў зямлі,
Мову мы не пакінем,
Мову продкі далі!
З мовай нас нарадзілі,
З мовай мы падраслі...
Людзі, што ж нарабілі,
Мы на роднай зямлі?!
Мова наша, як колас,
Мова будзе гучаць.
Мова - гэта наш голас,
Дык не будзем маўчаць!

Не мог змаўчаць і пенсіянер Якім Старахатні з в.Ломавічы Акцябрскага раёна. З вышыні свайго 73-гадовага ўзросту беларускі ўкраінец робіць высnову: "На жаль на Беларусі кіруюць былыя партапаратчыкі, якія ніколі не размаўлялі на сваёй роднай мове і цяпер робяць усё, каб яе знішчыць. Але ж ім гэта не ўдасца, бо нават гітлераўцы ў часы Вялікай Айчыннай вайны не змаглі пакараць наш народ ... Робіце добрую справу і я быў бы вельмі рады, калі б дачакаўся кніжкі з гэымі сачыненнямі".

Сапраўды, народ павінен ведаць, пра што думаюць дзеці. Многія творы ўжо друкаваліся ў некаорых газетах і часопісах. Асаблівай увагі ў СМІ дасягнула "Малітва за беларускую мову" дзевяцікласніцы Марыі Заяц з Менска. Яна атрымала асобны прыз. Граматамі і падарункамі пераможцаў удастоены сярод выпускнікоў Эма Дзюрыч (в.Асіповічы Драгічынскага р.), Сяргей Падсасонны (в.Фундамінка Буда-Кашалёўскага р.), Наталля Асвяцімская (гімназія № 36 Гомеля), Сяргей Грудзінскі (гімназія № 1 Ліды), Алёна Літвін (г.п.Плешчаніцы Лагойскага р.), алеся Шарэнда (Сянно);

Сярод 11-цікласнікаў — Алёна Лютко (Менск),Вольга Базылёва (Менск), Іна Канevoча (ПТВ 109 Бярозы), Святлана Кастрамічава (Капыль), Святлана Гапанёнак (Глыбокае), Аксана Матарас (в.Верасніца Жыткавіцкага р.);

Сярод 10-цікласнікаў і 9-цікласнікаў — Мікалай Хіла (Менск) , Вольга Чычкан (Гародня), Таццяна Шугальская (Докшыцы), Вераніка Кузьмянкова (Менск, Марына Барысенка (Калінкавічы), Вольга Кункевіч (Менск);

Сярод 8-мікласнікаў Максім Каржыцкі (СШ № 33 Віцебска), Уладзімір Скамейка (СШ № 1 Глыбокага), Марыя Астапчык (СШ № 3 Мсціслава), Аляксандр Новікаў (Гарадок Віцебскай вобл.), Кацярына Шамашова (СШ № 120 Менска);

Сярод 7-мікласнікаў — Марына Лукашэвіч (СШ № 1 Мядзеля), Алёна Асадчая (СШ № 178 Менска), Вікторыя Шышова (Полацкая нацыянальная гімназія), Мікола Сайко (СШ № 2 г.Узды), Зміцер Малыхін (гімназія № 36 Гомеля), Наталля Шавель (СШ № 3 Вілейкі);

Сярод 6-цікласнікаў — Алёна Нікіціна (СШ № 2 Клічава), Вераніка Камароўская (СШ № 5 Оршы), Іна Прасаловіч (Вілейка), Антон Каралёў (гімназія № 36 Гомеля), Яніна Бурая (Нясвіж), Наталля Пляшывава (Відзы Браслаўскага р.);

Сярод 4 і 5 -ці класнікаў — Сяргей Скамейка(Бялынічы), Максім і Наташа Рэйкіны (в.Субачы Ваўкавыскага р.), Уладзімір Зімчук (гімназія №36 Гомеля), Алесь Васіленка (г.Крычаў), Аляксей Бубліс (в.Зарэчча Лагойскага р.), Марыя Мядзведзева (СШ № 20 Бабруйска)), Наталля Говарава (СШ № 208 Менска).

Вам, дзеці, не павінна быць сорамна за сябе.

*Алесь Лозка, віцэ-прэзідэнт ТБШ.*

# ВЫЗНАЧАНЫ ПЕРАМОЖЦЫ

Архіў Найноўшай Гісторыі (пры Беларускім гуманітарным Фондзе "Наша Ніва") пры ўдзеле Таварыства Беларуская мовы імя Ф.Скарыны, метадычнай дапамозе Цэнтра KARTA (Варшава) і падтрымцы Фундацыі Стэфана Баторыя (Варшава) правёў конкурс "Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945-1965".Конкурс стаўся першым у праграме "Блізкая гісторыя" і быў скіраваны да навучэнцаў сярэдніх навучальных установаў.

Журы атрымала і расповеды, і аўдыёкасеты з запісам апытанняў і ўспамінаў, дакументы і фотаздымкі з сямейных архіваў. У некаторых працах выкарыстоўваліся архіўныя дакументы і газетныя матэрыялы перыяду 1945-1965 гадоў. Здарылася, што зусім нечаканыя старонкі нашай гісторыі раскрыліся ў працах беларускіх школьнікаў канца дзевяностых.

У другі тур выйшла 111 пісанняў, над якімі працавалі 142 навучэнцы з 93 сярэдніх школаў і 12 іншых навучальных установаў. Усе яны былі адзначаныя ўзнагародамі — камплектамі кніжак гістарычнай тэматыкі, падпіскаю на незалежныя беларускія выданні ("Спадчына", "Наша Ніва", "Наша слова" і інш.), касетамі з запісамі беларускага року (N.R.M., "Народны альбом", ды інш.. У якасці прызоў сакратарыят ТБМ выдзеліў 140 асобнікаў кніжкі Найдзюка і Касяка "Беларусь учора і сяння". З гэтых 111 працаў чатыры былі адзначаны Першай узнагародай, дзевяць — Другой і дзевятнаццаць — Трэцяй. Асобна заахвочаныя апекуны працаў-пераможцаў, а таксама найбольш актыўныя рэгіянальныя каардынатары конкурсу.

Журы конкурсу, якое складалася з гісторыкаў, літаратараў, культуролагаў, прызначыла наступныя ўзнагароды:

Першую ўзнагароду (мультымедыйны кампутар) атрымалі:

Ганна Рудкіна з Менскага Тэхналагічнага Тэхнікума за сістэматызацыю і апрацоўку значнай колькасці арыгінальных дакументаў у працы "Паперы з бабулінай скрыні". Апякун працы Марыя Прымачук;

калектыўная праца "Гісторыя звычайнага калгаса: гаспадарка і людзі". Аўтары: Юры Кізюк, Андрэй Лізун, Вячаслаў Руды, Руслан Палавікоў, Іван Мякска, Кацярына Шыдлоўская, Валянцін Аношка, Павел Чугай, Аляксей Сівуха з Луцкаўлянскай сярэдняй школы Гарадзенскага раёна. Апякун працы — настаўнік гісторыі Андрэй Янушкевіч. Праца адзначаная як маштабнае даследванне, праведзенае з дапамогаю апытання значнай колькасці сведкаў гісторыі. У дадатак да кампутара на гуртрок кожны з аўтараў працы атрымаў па фотаапарату SAMSUNG;

Вольга Вялікая з Койданаўскай сярэдняй школы № 2 за працу "Дзейнасць падпольнай маладзёжнай антысавецкай арганізацыі ў горадзе Ліда". У гэтай працы ўпершыню апісана дзейнасць антысавецкай арганізацыі, пра якую раней не было ніякіх звестак. Апякун працы Анатоль Вялікі;

Анатоль Паўлоўскі з Наваполацкага ліцэя за арыгінальнае даследванне "Гісторыя полацкага аэрадрома". Апякун працы Алесь Аркуш.

Апроч таго, апякуны працаў сп. Андрэй Янушкевіч і Алесь Аркуш, якія падавалі заяўкі на Конкурс "Беларуская майстэрня ў Падкове Леснэй", атрымалі магчымасць творчай камандзіроўкі ў Варшаву на два тыдні.

Другая ўзнагарода (фотаапарат SAMSUNG і дыктафон SONY) будзе скіравана ў гуртрок "Спадчына": Святлана Баршчэўская,Ганна Яцэвіч, Паліна Прохарава, Аляксандр Локтыш (Валмянская СШ, Койдаўшчына) за працу "Даследванне дакументаў, знойдзеных у час краязнаўчай экспедыцыі на хутары М.Яновіча". Апякун працы кіраўнік гуртка Наталля Даўганацдева; Анатоль Саракавік з Вішнявецкай сярэдняй школы Стаўпецкага раёну за працу "Старапеныя цені мінулага". Апякун працы Вячаслаў Саракавік; Сяргей Булавацкі з СШ № 28 Бабруйска за працу "Як вярталі прадзеда". Апякун Міхась Булавацкі; Андрэй Кавалёў (Магілёўскі тэхналагічны інстытут) за працу "З гісторыі Беларусі, ці як мой дзедд жаніўся". Апякун працы Уладзімір Амяльчэня; Яўген Бельскі з Менскай СШ № 71 за працу "...Нельга святое нішчыць". Апякун працы Алена Бельская; Юлія Захаранка з Магілёўскага абласнога ліцэю імя А.Куляшова за працу "Рэалізацыя права свабоды сумлення на Беларусі ў 1945-1965"; Аляксандр Зайцаў з Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэю (Менск) за працу "Дваццаціголддзе марных спадзяванняў". Апякун працы Мар'ян Віж (Зайцаў); калектыўная праца "Мы змагаліся за Беларусь..." (сустрэча і запіс інтэрвію з удзельнікам Саюза беларускіх патрыётаў Алесем Юрцэвічам). Аўтары: Ігар Пахірка, Вольга Скавародка, Аляксандр Протак, Аляксандр Вішнеўскі (сярэдняя школа № 3, Мёры). Апякун працы настаўнік гісторыі Вітаўт Ермалёнак. Спецнумар газеты "Зялёны дуб". Аўтары: Яўген Мядзейка, Ірына Паларамчук, Сяргей Медзер, Кірыла Гурыновіч, Вераніка Лаўрова (сярэдняя школа № 181, Менск). Апякун працы настаўнік гісторыі, прэзідэнт Маладзёжнага грамадскага аб'яднання "Гісторыка-экалагічны турысцкі клуб "Зялёны дуб" Валянцін Глушакоў.

Трэцюю ўзнагароду (дыктафон SONY) атрымалі:

Алена Кіёнак з сярэдняй школы ў мястэчку Варапаева за працу "Лідзія Іванаўна Сікора-Дасюкевіч: фамільны партрэт на фоне часу". Апякун працы краязнаўца Іосіф Зямчонак. Апякун працы, які падаў заяўку на Конкурс "Беларуская майстэрня ў Падкове Лесьнэй" атрымлівае магчымасць творчай камандзіроўкі ў Варшаву на два тыдні; ІрынаКосмыкова з СШ 1, Лёна за працу "Хальч: мой боль, мая пакута...". Апякун працы Міхаіл Космыкаў; Алена Лютко з СШ № 67, Менск за працу "Асмолава. Падарожжа ў мінулае". Апякун працы Тамара Лютко; Таццяна Конап з Менскага дзяржаўнага педагагічнага каледжу за працу "Памяць -- сведка часу". Апякуны працы настаўнікі Зінаіда Купцэвіч і Аляксандр Чэчат; Хведар Сазанавец з СШ № 8 Ліда за працу "Споведзь заходніцы". Апякун працы Лілея Сазанавец; Вольга Таборка з СШ № 31, Магілёў за працу "Па слядах старога фатаздымку". Апякун працы Таісія Бабкова: Наталля Пахамовіч з СШ № 4 Горкі за працу "Жыццядзейнасць і творчасць дырэктара бібліятэкі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі Д.Р.Новікава". Апякун працы Аляксандра Пахамовіч; Павел Ціт авец і Кірыла Цітко з СШ № 2, Менск за працу "Касмалагічныя працы Язэпа Драздовіча". Апякун працы настаўнік Юры Малаш; Насця Ліцьвінава з Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя, Менск, за працу "1945-1965гг. і іншыя часіны". Апякун працы Віктар Ліцьвінаў; Аляксей Цімошын з гімназіі-каледжу (Менск) за працу "Менск у 1945 годзе". Апякун працы гісторык Анатоль Грыцкевіч; Яўген Тарашкевіч з Менскага энергатэхнікума за працу "Дарогай бабулі прысвячаецца...(1945-1965гг. старонкі жыцця)". Апякун працы Таццяна Тарашкевіч; Святлана Сендзер з Ліцэю БДУ, Менск за працу "Другая сям'я (дзяцінства ў інтэрнаце)". Апякун працы гісторык Сяргей Ходзін; Юрась Наварай з СШ № 101, Менск за працу "Добры вечар, шчодры вечар; або "Як цётку Лену пагражалі не прыняць у піянеры". Апякун працы Алена Наварай; Мікалай Драбкоў з Магілёўскага абласнога ліцэя пры Магілёўскім дзяржаўным універсітэце за працу "Мой род". Апякун працы Міхась Булавацкі; Аляксандр Бабеня з Баранавіцкага недзяржаўнага эканоміка-юрыдычнага каледжа "Паўсядзённае жыццё ў Беларусі 1945-1965 гадоў. Па фактах асабістага жыцця спадара Гунько Аляксандра Антонавіча". Апякун працы выкладчык Віктар Сырыца; Алег Шкнай з СШ № 186, Менск за працу "Вясковыя будні пасляваенных гадоў у Заходняй Беларусі". Апякун працы Таццяна Сапега; Андрэй Дэц з СШ № 180, Менск за працу "Чаму яны розныя". Апякун працы Алена Дэц; Уладзімір Міхаленя з СПТВ № 203, Смілавічы за працу "Паўсядзённае жыццё Беларусі, 1945-1965"; Ірына Дубейка з СШ № 5, Пружаны за працу "Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945-1965 гг.".

Апрроч таго, журы адзначыла найбольш актыўных каардынатараў Конкурсу:

Ірыну Сідарэнка (Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй, Менск); Алену Леванкову (Менскі энергатэхнікум, настаўніца беларускай мовы); Ганну Мальцаву (Лідскі індустрыяльны тэхнікум, настаўніца расейскай мовы і літаратуры); Валянціну Белавусаву (настаўніца гісторыі,горад Горкі); Станіслава Судніка (галоўны рэдактар газеты "Наша слова", Ліда);Іну Кулей (Асацыяцыя "Вежа", Бярэсце).

Урыўкі з працаў-пераможцаў, а таксама цікавыя фрагменты іншых конкурсных працаў будуць апублікаваныя ў красавіку 1999 года асобнаю кніжкай. Грамадскі Архіў Найноўшае Гісторыі таксама мае намер надалей выкарыстоўваць матэрыялы Конкурсу ў сваёй працы.




# Змаганне за мову ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь 12 склікання

## Стэнаграмы 16-й сесіі. Паседжанне 90-е. 24 сакавіка 1995 года, пятніца, 9 гадзін 30 хвілін.


Шаснаццатая сесія
Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
дванаццатага склікання

Бюлетэнь № 90

Выданне Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
1995

**Старшыня.** А я хацеў бы, Сяргей Антонавіч, як старшынствуючы, каб больш было ў дэпутатаў культуры. Вельмі прашу: ну колькі ўжо можна гэта ўсё слухаць?! Бескультур'е гэта ўсё. Прабачце, Сяргей Антонавіч... У выразах, якія выкарыстоўваеце ў выступленні.

Калі ласка, слова мае дэпутат Навумчык Сяргей Іосіфавіч. Наступным выступае дэпутат Какоўка.

**Навумчык С.І.** *(Віцебская-Чыгуначная выбарчая акруга № 181).* Шаноўныя дэпутаты! Шаноўны Прэзідэнт! Я звяртаюся ў тым ліку і да вас, Аляксандр Рыгоравіч, бо ведаю, што тэксты нашых выступленняў будуць вам сёння пакладзены на стол. Мы абмяркоўваем вельмі, я б сказаў, выбухованебяспечную тэму, якая мае не толькі юрыдычны аспект, пра які тут ужо дастаткова прафесійна казалі, але і палітычны, і маральны, і нават дэмаграфічны аспект. Я хачу звярнуцца да некаторых выступленняў, якія прагучалі ўчора ў зале і найперш да вашага выступлення, паважаны дэпутат ад ветэранскай арганізацыі Качан. Вы сказалі, як нам, ветэранам, як нашым дзецям і ўнукам адзначаць 50-годдзе Вялікай Перамогі вось пад гэтым бел-чырвона-белым сцягам і пад "Пагоняй"?

Спачатку кароткая біяграфічная даведка. Абодва мае дзяды (і па мацярынскай, і па бацькоўскай лініі) ваявалі з фашызмам, абодва дайшлі да Берліна. І ў жонкі таксама абодва дзяды ваявалі, адзін з іх, прычым загінуў. Мая бабка загінула на сёмы дзень вайны пад Магілёвам ад снарада. Так што, як бачыце, ніякіх родзічаў у паліцыі ў мяне не служыла. Але я, мая сястра, мае стрыечныя браты, мае сябры 9 Мая будзем адзначаць гэтае свята пад дзяржаўнымі сімваламі — пад бел-чырвона-белым сцягам і пад гербам "Пагоня", аддаючы, дарэчы, належнае і тым палкавым, франтавым, дывізіённым сцягам, пад якімі вы, паважаныя ветэраны, ваявалі, нават калі на гэтых сцягах будуць профілі Леніна і Сталіна.

Дарэчы, вы ваявалі пад тымі сцягамі, а не пад гэтым сцягам, таму што гэты сцяг з арнаментам, зялёна-чырвоны, быў зацверджаны толькі ў 1952 годзе. І калі мы кажам пра гісторыю, то правільна казаў дэпутат Здaнeвіч: давайце вернемся да той гісторыі, як ён прымаўся. З такой спешкай прымаўся, што, паважаныя дэпутаты, каб вы ведалі, газета "Звязда" пра гэта пісала. Вось гэты арнамент, які тут, гэты так званы сімвал заходзячага сонца, і гэты арнамент быў на ручніках, якія вешалі на надмагільныя крыжы на саракавы дзень пасля смерці. Гэта гістарычны арнамент, але ён, выбачайце, пахавальны арнамент. Так, гэта таксама гісторыя, гісторыя нашай дзяржавы, але, можа быць, гэта не тая гісторыя, да якой нам трэба вяртацца.

За гэтым гербам, за гэтым сцягам больш старажытная гісторыя, але за ім і будучыня. І сёння ёсць новае пакаленне, маладое пакаленне, якое, дарэчы, яшчэ не прыйдзе галасаваць: ім толькі па пятнаццаць, па шаснаццаць гадоў, па дзесяць гадоў, але яны ўжо вывучылі ў школе пра гэты сцяг, яны ўжо ведаюць, што пад гэтым сцягам перамог і Шчэрба на алімпіядзе і іншыя спартсмены. І пад гэтым сцягам ішло наша нацыянальнае адраджэнне, і за ім будучыня, і за гэтым гербам будучыня. Давайце мы будзем талерантнымі.

Шаноўны Прэзідэнт! Шаноўныя дэпутаты! Вы бачыце, як у нас накаліліся страсці сёння ў гэтай зале? Дык гэта парламент. А што будзе, прабачце, на вуліцы? А на вуліцы будзе тое, што людзі — і маладыя і старыя — не паразумеюцца, як , дарэчы, мы не бачылі такога паразумення 3 ліпеня, калі нас, маладых людзей, а з намі былі ветэраны — і ветэран Быкаў, і ветэран вайны Вольскі, і ветэран вайны аўтар помніка Перамогі архітэктар Заборскі, — калі мы выйшлі пад дзяржаўнымі сімваламі, а нас сустрэлі фашысты. Паважаныя нашы ветэраны сталі (на жаль, можа быць, яны самі гэтага не ведалі) разам з фашыстамі, і фашысты тапталі дзяржаўныя сімвалы.

Я хацеў бы, каб вы не распалялі страсці. У нас ёсць сёння падставы для канструктыўнага дыялогу, падставы да кансалідацыі, і гэта падстава — эканоміка. Першая і апошняя — гэта эканоміка, і менавіта на кансалідацыю ў грамадстве павінны быць накіраваны і дзеянні Прэзідэнта, і дзеянні Вярхоўнага Савета ў апошнія дні яго існавання, дзеянні прадстаўнікоў ветэранскай арганізацыі, прадстаўнікоў апазіцыі і гэтак далей. Таму я звяртаюся да Прэзідэнта: калі вы не хочаце накаляць страсці ў грамадстве, здыміце, калі ласка, сваю прапанову, у нас ёсць шмат падстаў для кансалідацыі і шмат працы на бліжэйшыя месяцы і гады.

Дзякуй.

**Старшыня.** Слова мае дэпутат Какоўка Віктар Фёдаравіч. Наступным выступае дэпутат Гюнтэр.

**Какоўка В.Ф.** *(Навапалацкая - Індустрыяльная выбарчая акруга № 176, Віцебская вобл. **Пераклад з расейскай**).* Шаноўныя калегі! Тыя пытанні, якія вырашыў вынесці Прэзідэнт на дзяржаўны рэферэндум, дэструктыўныя па сваёй сутнасці, і, напэўна, большасць гэта разумее, хоць некаторыя, хто належыць да розных палітычных структураў, не кажуць аб гэтым наўпрост. Мы ж зараз цудоўна ведаем з досведу краін бліжэйшага замежжа, што там рабілася, калі падымаліся пытанні аб мове, і чым гэта скончылася. Мы цудоўна ведаем, чым скончылася прыспешванне з прыняццем Канстытуцыі, і вельмі многія ў гэтай зале (я б нават дазволіў сабе назваць іх большасцю) кусаюць локці.

І зноў у чарговы раз прыспешна, не пралічыўшы ўсё наперад, робяць спробы падняць пытанне аб дзяржаўнай сімволіцы, аб мове, аб нейкіх абстрагаваных інтэграцыях, як тут ужо казалі, маем намер з прыватным расейскім капіталам нашую маёмасць праітэграваць. Так, наогул, мы маем магчымасць, як палітыкі задаваць пытанні: навошта неабходна пастаноўка менавіта пытанняў, па сутнасці антыдзяржаўных, калі паглядзець з пункту гледжання палітыкі, нашаму Прэзідэнту — кіраўніку нашай дзяржавы?

Некаторыя могуць падумаць, што за гэтым маецца праблема выбараў у парламент нашай дзяржавы. Але, шаноўныя дэпутаты, маюць на ўвазе тое, што ў Прэзідэнта няма ўласнай партыі ( і магчыма палітычна прагназаваць, што яе і не будзе) прычына выбараў у парламент Беларусі, напэўна, не стаіць. Але не ў гэтым, напэўна, галоўная выснова, чаму Прэзідэнт выставіў гэтыя пытанні на рэферэндум. Напэўна, маецца праблема выбараў у парламент зусім іншай і не ў парламент, а прэзідэнцкіх выбараў у Расіі. Напэўна, за гэтым усім хаваецца менавіта такі падыход. Дарэчы, аб гэтым ужо пачалі пісаць газеты, і не толькі ў Беларусі.

Калі зазірнуць па сутнасці на пазіцыю нашага Прэзідэнта, дык ён, напэўна, павінен быў паставіць на рэферэндум пытанні эканамічныя — тыя пытанні, якія зараз цікавяць большасць нашага насельніцтва. І ён таксама павінен быў... Магчыма, на яго зараз уздзейнічаюць нейкія цёмныя сілы, замінаюць яму, дык ён вымушаны шукаць падтрымкі ў народа і ставіць пытанні, скажам, аб кампенсацыі грашовых укладаў, аб павялічэнні пенсіі, па пытанню запуску прадпрыемстваў, таму што наконт гэтага пытання ідзе шмат гаворкі, але нічога па-сапраўднаму не прапаноўваецца. Калі б наш Прэзідэнт, сапраўды, на дадзены момант турбаваўся лёсам нашага народа, ён, напэўна, паставіў бы на рэферэндум пытанні, кшталту такіх, якія я зараз працытую:

Ці згодны вы, каб дадаткова павялічыць пенсіі за кошт арэнднай платы за знаходжанне на тэрыторы Рэспублікі Беларусь замежных ваенных аб'ектаў, баз і вузлоў? Так ці не?

Ці згодны вы, каб кампенсаваць грамадзянам Беларусі грашовыя складкі, знішчаныя інфляцыяй, за кошт рэалізацыі не болей чым аднаго працэнта зямельнага фонду Рэспублікі Беларусь?

Ці згодны вы, каб паменшыць падаткі на прадпрыемствы за кошт транзітных збораў і падаткаў з усіх замежных юрыдычных і фізічных асоб? Так ці не?

На жаль, наш Прэзідэнт эканомікай як не займаўся ўвесь гэты час пасля выбараў, гэтак да гэтай пары і не займаецца. Ён займаецца толькі тымі пытаннямі, якія яго цікавяць, я кажу, як прыватная асоба. На жаль, такі стан. Але я думаю і спадзяюся, што, нягледзячы на ўсе гэтыя рэферэндумы, якія ён прапаноўвае, усё роўна наша рэспубліка будзе квітнеючай еўрапейскай дзяржавай, таму што маладое пакаленне, а аб тым мяркую па сваіх сынах, даўно ўжо стала сапраўднымі патрыётамі Беларусі, і ніколі гэты рэспубліку не прададуць.

**Старшыня.** Слова мае дэпутат Гюнтэр, наступным выступае дэпутат Зяленін.

**Гюнтэр Б.Д.** *(Гомельская-Сельмашаўская выбарчая акруга № 190, **пераклад з расейскай**).* Шаноўныя дэпутаты! Я не займу шмат часу, таму што тут ужо практычна ўсё сказана. Але маецца адзін пасыл. У нармальных дзяржавах маецца адно азначэнне: падчас палітычнай і эканамічнай нестабільнасці рэферэндумы не праводзяцца. Гэта самае галоўнае. Сёння магчыма было б да тых пытанняў, якія прапанаваны Прэзідэнтам, дадаць яшчэ адно: ці маеце вы давер да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь? Калі нават гэтае пытанне будзе ў пераліку гэтых пытанняў, я галасаваць не буду, таму што сёння насельніцтва адназначна дасць адказ: не маем даверу.

Дзеля чаго выносяцца гэтыя пытанні на наш разгляд? Я лічу гэта правакацыяй. Звярніце ўвагу на сённяшні тыдзень у Вярхоўным Савеце. Першая правакацыя з боку Урада і Прэзідэнта — гэта пытанне пра Сярэдзіча, каб занесці раздрай у наш Вярхоўны Савет, цудоўна ведаючы, што большая частка Вярхоўнага Савета не любіць спадара Сярэдзіча. Я мяркую, што спадар Прэзідэнт цудоўна ведае, што ён парушае Канстытуцыю і законы Рэспублікі Беларусь, падпісваючы гэты ўказ.

Сёння пайшлі далей, выносячы пытанне аб рэферэндуме на разгляд у Вярхоўны Савет. Сёння — тая ж правакацыя. Прэзідэнт хоча гэтай правакацыяй раскалоць нашае грамадства. На самой справе сёння людзі пачалі асэнсоўваць сваю нацыянальнасць, сваю дзяржаўнасць. Напярэдадні 50-годдзя Перамогі над фашысцкай Германіяй гэта супрацьстаянне можа ўзнікнуць у нашай дзяржаве. Таму я прапаную не галасаваць за дадзеную прапанову. Не дай нам Бог прыняць яе.

Дзякуй.

**Старшыня.** Слова мае дэпутат Зяленін Валерый Іванавіч. Наступным выступае дэпутат Пазьняк.

**Зяленін В.І.** *(Камянецкая выбарчая акруга № 124. Берасцейская вобласць, **пераклад з расейскай**).* Паважаныя дэпутаты! У адпаведнасці з павесткай дня згодна часткі трэцяй артыкула 74 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь ад імя 133 дэпутатаў Вярхоўнага Савета прапаную ўнесці ў бюлетэнь для таемнага галасавання на рэспубліканскі рэферэндум наступныя пытанні.

Першае. Ці лічыце вы, што артыкул 18 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь неабходна дапоўніць часткай наступнага зместу: Рэспубліка Беларусь не накіроўвае свае войскі за межы нацыянальнай тэрыторыі і не размяшчае на сваёй тэрыторыі войскі іншых дзяржаў.

Другое. Ці лічыце вы, што артыкул 43 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь павінен быць выкладзены ў наступнай рэдакцыі: працоўныя маюць права на адпачынак. Для тых, хто працуе па найму, гэтае права забяспечваецца устанаўленнем працоўнага тыдня, які не перавышае 40 гадзін, дзён штотыднёвага адпачынку, скарочанай працягласцю работы ў начны час, прадастаўленнем штогадовага аплачанага адпачынку працягласцю не менш 30 каляндарных дзён. Неабходна прызнаць, што Камісія па заканадаўству, верная сваім традыцыям, дала адмоўнае заключэнне па ўнясенню гэтых пытанняў на рэферэндум.

А зараз пра прапанову Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Па першаму пытанню. Што замінае расейскай мове мець роўны статус з беларускай? Артыкул 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Ці можна дасягнуць роўнага статусу моваў, не мяняючы артыкула 17 Канстытуцыі? Канешне, не. Таму першае пытанне трэба фармуляваць як новую рэдакцыю артыкула 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Другое. На мой погляд, больш правільна ставіць пытанне пра падтрымку народам, пра асвятленне, так сказаць, рашэння Вярхоўнага Савета пра прыняцце сённяшняй сімволікі, таму што ў гэтай зале, напэўна вельмі мала дэпутатаў, якія атрымалі наказ ад выбаршчыкаў памяняць сімволіку. Калі б мы парадзіліся з народам па гэтым пытанні адразу, то зараз не было б ніякіх пытанняў.

Трэцяя фармулёўка пытання няўдачная і дапускае розначытанні. Які будзе адказ, калі чалавек інтэграцыю з Расеяй падтрымлівае, а дзеянні Прэзідэнта лічыць недастатковымі.

Па чацвёртым пытанні. Пра выраўніванне паўнамоцтваў Прэзідэнта і Вярхоўнага Савета. Магчыма, больш правільна гаварыць не пра наданне Прэзідэнту права роспуску Вярхоўнага Савета, а пра адмову Вярхоўнага Савета ад ініцыятывы па зняццю з пасады Прэзідэнта. Неабходна скарэктаваць артыкул 104 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь такім чынам, каб ініцыятыва пра зняцце з пасады і датэрміновае вызваленне Прэзідэнта ад пасады належала не дэпутатам Вярхоўнага Савета, а толькі Канстытуцыйнаму Суду, і па яго заключэнню і прадстаўленню Вярхоўны Савет двумя трэцямі прымаў пастанову.

А зараз па сутнасці. Што замінае правесці рэферэндум, унесці змены ў Канстытуцыю? Паводле думкі Камісіі па заканадаўству гэта артыкул 148 Канстытуцыі, якая гаворыць пра недаступнасць Канстытуцыі ў апошнія 6 месяцаў паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета. Гэта і Закон аб рэферэндуме, у якім мы забараняем народу выказвацца па найбольш важных пытаннях. Напрыклад. Еўропа праходзіць у гэты час праз рэферэндумы ў Еўрапейскі саюз, а мы гаворым, што нельга на рэферэндум выносіць міжнародныя дамовы Рэспублікі Беларусь. На мой погляд трэба пазбаўляцца ад такой супярэчнасці. На мой погляд, норма артыкула 148 Канстытуцыі адносіцца толькі да Вярхоўнага Савета, а да рэферэндуму адносін не мае. Паколькі толькі Вярхоўны Савет дае тлумачэнні Канстытуцыі, то нам трэба гэта зрабіць адносна артыкула 148. І калі мы прыдзем да высновы, што артыкул 148 не замінае ўносіць змены ў Канстытуцыю праз рэферэндум, у тым ліку і ў апошнія 6 месяцаў паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета, то неабходна ўнесці змены ў Закон аб рэферэндуме, прывесці яго ў адпаведнасць з Канстытуцыяй, каб першы ў Рэспублікі Беларусь рэферэндум быў прызначаны і праведзены ў адпаведнасці з Канстытуцыяй і Законам.

І апошняе. Паважаныя дэпутаты? Давайце не ладзіць ілюзій і не хаваць галаву ў пясок. Нават калі мы адмовім у правядзенні рэферэндуму, то ў Прэзідэнта знойдзецца магчымасць звярнуцца да народа насуперак нашаму нежаданню. Гэта будзе не рэферэндум, а зварот ці яшчэ нейкае ... Але 14 траўня бюлетэні на выбарчых участках будуць і не толькі з гэтым пытаннем, а можа быць, і з іншымі. Напрыклад, з просьбай аб прадстаўленні Прэзідэнту права прызначаць рэспубліканскі рэферэндум.

Дзякуй за ўвагу.

*(Працяг у наст. нумары)*

# Беларуская мова ў малітоўным доме

Так сталася, што ў гэтым годзе, на Раство я быў запрошаны да пратэстантаў. Вялікая зала ў менскай царкве Евангельскіх хрысціян-баптыстаў "Святло Евангелля" на вуліцы Райніса ў Заводскім р-не горада была пераноўлена.

Вернікі прышлі сюды цэлымі сем'ямі, было шмат жанчын і дзяцей球 рознага ўзросту. Інтэр'ер малітоўнай залы вельмі просты і яна нагадвае вялікую студэнцкую аўдыторыю, дзе лаўкі, як на стадыёне, паступова падымаюцца ўверх ад цэнтра памяшкання. У куце стаяла прыгожая навагодняя ёлка, аздобленая бліскучымі цацкамі і вялікі вазон з раслінай, што нагадвае вялікую папараць - кветку.

Ніякіх абразоў і ўкрыжаванняў няма, малюнкі на біблейскія тэмы таксама адсутнічаюць. Вопратка святароў нічым не адрозніваецца ад адзення простых вернікаў, што яскрава сведчыць аб роўнасці ўсіх перад Богам.

Само набажэнства ішло на расейскай мове, часам з выразным беларускім акцэнтам, а вось псалмы, а іх пад прыгожую музыку спяваў вялікі хор, гучалі напалову па-беларуску. Гэта было настолькі прыгожа і ўзнёсла, што я адразу прыпомніў спевы ўкраінскіх уніятаў у галіцыйскіх храмах, дзе ўсё набажэнства адбываецца па-украінску.

Таму мы прапануем чытачам "Нашага слова" тэкст двух беларускіх псалмаў: "Слухай: Апёлы пяюць" і "Прыйдзеце да збаўцы, верныя, са спевам!"

Пасля ўрачыстага малення, я пагутарыў з двума баптыскімі святарамі, якія, дарэчы, са мною гаварылі на цудоўнай беларускай мове. Яны расказалі, што ў Менску зараз дзейнічае 12 малітоўных дамоў евангельскіх хрысціян-баптыстаў, а іх грамада ў горадзе налічвае 2 тысячы чалавек. Дарэчы першы маленькі малітоўны дом гэтай канфесіі пачаў дзейнічаць у Менску яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя. У часы царызму праваслаўная царква актыўна змагалася з баптыстамі. Іх нябожчыкаў нельга было нават хаваць на праваслаўных могілках. Потым з пратэстантамі зацята ваявалі бальшавікі, але пасля апошняй вайны ў разбураным Менску, першы малітоўны дом баптыстаў з'явіўся ў 1945 годзе.

Зараз на Беларусі іх налічваецца больш чым 20 тысячаў і жывуць яны ў большасці на тэрыторыі Берасцейшчыны і Гомельшчыны. Застаецца толькі пажадаць ім у гэтым годзе часцей звяртацца да Бога на нашай роднай мове, мове якая можа аб'яднаць разам усіх беларусаў-хрысціян.

*Алег Трусаў*
*г.Менск, 7 студзеня 1999г.*

**167 ПРЫЙДЗЕЦЕ ДА ЗБАЎЦЫ, ВЕРНЫЯ, СА СПЕВАМІ**

Anon. (Latin 17th Cent.) ADESTE FIDELES Wade's Cantus Diversi

1. Прый-дзе-це да Збаў-цы, вер-ны-я, са спе-вам! Прый-
2. Ня-бес-ны-я хо-ры, ра-дас-на спя-вай-це! Су-
3. І-су-се, Ця-бе мы ра-дас-на ві-та-ем, Та-

дзе-це да яс-ляў Я-го ў Бэтлеем! Цар на-ра-дзіў-ся,
свет ня-хай чу-е хва-лен-не Хрысту! Сла-ва, а-сан-на
бе чэсць і сла-ву ад сэр-ца пя-ём. Веч-на-е Сло-ва

ПРЫПЕЎ

Цар у-сіх ства-рэн-няў.
на вы-шы-нях Бо-гу. Прый-дзе-це па-кла-ніц-ца, прый-
з'я-ві-ла-ся ў це-ле...

дзе-це па-кла-ніц-ца, прыйдзеце па-кла-ніц-ца Гос-па-ду!

**186 СЛУХАЙ: АНГЕЛЫ ПЯЮЦЬ**

Charles Wesley — Hark! The Herald Angels Sing. — Mendelssohn

1. Слу-хай: ан-ге-лы спя-ва-юць: "Слава Госпа-ду Хрыс-ту!"
2. Не-ба сла-віць Я-го дзе-і, Ён — ня-бе-саў У-ла-дар,
3. Чэсць і сла-ва Кня-зю мі-ру, Сон-цу праў-ды і даб-ра!

Лас-ку, мір і ключ да ра-ю Ён пры-но-сіць на зям-лю.
Ён — у-сіх пля-мён на-дзе-я, Ён ня-се збаў-лен-ня дар.
Нам свят-ло і ра-дасць шчыру Ўжо да-е Я-го за-ра.

Грэшных з Богам Ён па-го-дзіць, Цеш-ся, ра-дуй-ся, на-ро-дзе
Не-чу-ва-на-е ад ве-ку: Бог зра-біў-ся ча-ла-ве-кам
Бо-жы Сын па-кі-нуў сла-ву, На-ра-дзіў-ся ў свет лу-ка-вы

І спя-вай пра леп-шы лёс: На-ра-дзіў-ся нам Хрыстос!
Го-ра, цяж-кас-ці дзя-ліў, З на-мі жыў Э-ма-ну-іл
Каб лю-дзей у выш пад-няць, На-ра-джэн-не з ду-ха даць

ПРЫПЕЎ

Слу-хай: ан-ге-лы пя-юць: "Сла-ва Гос-па-ду Хрысту!

# Што чакае пінскія могілкі?

У цэнтры Пінска, недалёка ад скрыжавання вуліц Гайдаенка і Спакойнай, знаходзяцца старыя гарадскія могілкі. Некалі, калі можна так мовіць, рамантычнасць могілкам прыдавала царква, якая стаяла з правага боку галоўнай дарогі, у тым месцы, дзе пахаваны праваслаўныя. Злева ад дарогі — каталіцкія могілкі. Раней там стаяў пабудаваны ў мінулым стагоддзі невялікі драўляны касцёл, які ў 1972 г. быў спалены. Пад векапомным вязам і ліпай недалёка ад рэшткаў касцёла ляжыць пліта, якая сведчыць, што першае пахаванне было ў 1835 годзе. Не цяжка падлічыць, што ім болей 160 гадоў. У 1950 годзе, пры пагадненні з касцёлам, з боку каталіцкіх могілак быў выдзелены ўчастак пад яўрэйскія могілкі. Чуць далей — нямецкія захаванні. Недалёка ад гэтага месца знаходзіцца чыгуначны вакзал. Могілкі — чалавечая святыня, апошні прытулак кожнага з нас. Горад пашырыўся і здарылася так, што зараз былыя галоўныя могілкі горада аказаліся ў цэнтры. Тут болей не хаваюць, хаця яшчэ ёсць месца, а ўся плошча могілак каля 10 га. У барацьбе з рэлігіяй, былі знішчаны царква і касцёл, могілкі зараслі. Калі падуў цёплы ветрык Адраджэння Бацькаўшчыны, надаць могілкам прыстойны выгляд прыняў рашэнне гарвыканкам. Зараз цяжка ўявіць тое, што тады называлася могілкамі.

Паваленыя дрэвы, гушчар, сухастой і прыстанішча варон, куды ні глянь — гадамі складзенае смецце. Паваленыя крыжы, засыпаныя зямлёю магільныя пліты. Я ніколі не думала, што настане час у маім жыцці, калі буду прыходзіць на могілкі кожны дзень, у любое надвор'е, на працягу болей чатырох гадоў. Цяжка было пераaадолець сябе, бо многія гады працавала ва ўстанове, дзе ўсе хадзілі па паркетнай падлозе, а асяродздзе — людзі творчыя і адукаваныя.

Мне дапамагалі ўсе установы горада, цэнтр занятасці беспрацоўных. Спілавалі каля 200 старых дрэў, прыбралі паваленыя, выкарчавалі пні, зрабілі планіроўку абочын, засеялі маладою травою. Разбілі могілкі на сектары, ачысцілі ад бруду магільныя пліты, падмацавалі разбітыя склепы і крыжы.

Трывожныя хвіліны мне прыйшлося перажыць, калі ачышчалі ад бруду нямецкія могілкі. Тут пахаваны салдаты першай сусветнай вайны, а паверх тых захаванняў, як на парадзе, роўнымі радамі — салдаты, памёрлыя ў Вялікую Айчынную вайну.

Для нас немцы — захопнікі. Але недзе ў іх былі дзеці, маці, жонкі. А сэрца маці баліць аднолькава па сваіх дзецях, тым больш, памёрлых у чужым краі. Раней на нямецкіх могілках стаялі бярозавыя крыжы. А ў самым цэнтры — стэла, на якой віселі чыгунныя чатыры пліты з прозвішчамі памёрлых.

Могілкі памерам 52x39 метраў. З правага боку стэла з надпісам:"За Кайзера і Рэйх загінулі ў час разведкі лётчыкі: Філіп Грос (3.03.1894 — 27.04.1917г.) пілот унтэрафіцэр. Хорст Дзітман (6.03.1896 — 27.04. 1917г.) лейтэнант Франц Мюллер (3.08.1885 — 14.05. 1917г). Афіцэр Тромлер (1881 — 1917)".

Нашы салдаты ляжаць па ўсяму беламу свету. Мне давялося пачуць многа крыўдных слоў, калі на нямецкіх могілках пракладвалі пешаходныя дарожкі, ачышчалі ад бруду, паклалі надмагільныя пліты. Пад кожнай з іх — сусветная гісторыя. Былых ворагаў аб'яднала адна зямля, якую там, за мяжой, дбайна даглядаюць. Забытыя магілы — гэта наша абыякавасць.

Больш паўтары сотні чалавек, вядомыя і невядомыя салдаты і матросы, якія загінулі абараняючы нашу Айчыну, знайшлі спакой недалёка ад нямецкіх пахаванняў. Тут магіла Героя Савецкага Саюза — Мінаева і Канарэява. Парасшыя быллём магілы двух генералаў: Іпаліта Васільевіча Вяржбіцкага і Канстанціна Міхайлавіча Кадацкага — пахаваных у 1887 г. Тут жа ўнук вядомага мастака Мікалай Флавецкі, настаўнік і пісьменнік Ларын, стараста Пінскай саборнай феадораўскай царквы Мікалай Падкова.

Мы прывыкаем да беспарадку, бязладдзя і прымірыліся, зусім забываемся пра тое, што зрабіць сваё жыццё лепшым можам толькі самі. Зараз на могілках па вуліцы Спакойнай усё "спакойна". Усе жыльцы з дамоў, што побач з могілкамі, сярод белага дня звозяць на тачках смецце, прыбіраючы свой двор, вось-вось рушыцца струхлае дрэва, што побач з стэлай на нямецкіх могілках, і знішчыць апошні знак. Раскралі плітку з дарожак, зноў могілкі зараслі быллём кажуць, што святое месца доўга пустым не бывае. Бывае! Бывае, калі няма гаспадара. А я спадзяюся, што можа хто-небудзь пачуе. Мне вельмі шкода, што праца, зробленая многімі людзьмі і мною, паціху зарастае быллём.

*Алена Лягун, г.Пінск.*

**Пінск, вул. Спакойная. 1994 год. Нямецкія могілкі.**

# Беларусафобія не ад праваслаўя, а ад русіфікацыі

Добры дзень, вельмі паважаная рэдакцыя "Нашага слова". Вельмі добра, што ў "Нашым слове" ставіцца пытанне аб роднай мове пад час набажэнстваў у нашых храмах. Не ведаю, як у касьцёлах, а вось у праваслаўных храмах мовы роднай не чуваць.

Вось напрыклад у нашай Вілейцы дзве цэрквы. Старая, Марыінская, асвечаная ў гонар пр.Марыі Ягіпецкай, і новая, асвечаная ў гонар патрыярха Ціхана. У першай настаецель айцец Семіён, і яму дапамагае айцец Пётр. У другой настаяцель айцец Фёдар. Дык вось, калі айцы Семіон і Пётр да роднай мовы ставяцца больш-менш лаяльна, то айцец Фёдар з'яўляецца сапраўдным шавіністам-русафобам. Бо чуе падтрымку. Наш паважаны прэзідэнт А.Г.Лукашэнка, выстаўляючы сябе гэтакім абаронцам славянскага праваслаўя, запрашае наведаць Беларусь не Канстанцінопальскага ці Іерусалімскага (толькі яму, па яго малітве Гасподзь у Вялікую Суботу пасылае " Благадатны агонь") патрыярха, а Расейскага Алексія II. І зачыніўшыся з ім у сваіх апартаментах, нешта абмяркоўваюць. А што? За Алексіем II Беларусь наведвае Прымакоў. І з ім прэзідэнт наш зноў нешта абмяркоўвае адзін на адзін. А што? Два візіты-блізнюкі. І новы прыступ інтэграцыйнага свербу. Я па-харошаму зайздрошчу тым прыхаджанам якія моляцца ў храмах на роднай мове. Кажуць ёсць такія прыходы на Беларусі. А калі ёсць такія прыходы, то ёсць і літаратура (часопіс, газета).

Вось таму і мая вельмі шчырая просьба да Вас. Дапамажыце мне, дзе і як набыць такую літаратуру. Мне на Боскай волі пашчасціла наведаць многія праваслаўныя храмы на Беларусі і толькі адзін раз, у Кабыльніку, я пачуў, як царкоўны хор спявае песню на роднай мове. Ці няма такіх песень? Дык ці не варта нашым паэтам і кампазітарам стварыць такія песні адмыслова для царквы.

Вялікае Вам дзякуй за "Наша слова".

Яшчэ раз прашу, не адмоўце мне ў маёй просьбе.

Ды дапаможа Вам Усявышні ў Вашай святой справе.

Жыве Беларусь і яе святая мова.

*І. Пятровіч,*
*праваслаўны з Вілейкі*





# ПРАФЕСІЯ — БІБЛІЯТЭКАР ПУБЛІЧНАЙ БІБЛІЯТЭКІ

(Роздум прафесіянала)

ДЗЯМЕШКА Л.А.
прафесар кафедры бібліятэказнаўства
Беларускага універсітэта культуры

Прафесія бібліятэкар — адна са старажытнейшых у свеце. З'яўленне яе стаіць у пачатку асветы, навукі і культуры народаў. Прэстыж прафесіі — складаная сацыяльная з'ява, якая ў асноўным залежыць ад аб'ектыўных працэсаў у грамадстве.

Статус бібліятэкара ў грамадскай свядомасці перыядычна то ўзвышаўся, то падаў. Нагадаем, што ў XVIII стагоддзі бібліятэкара цанілі, мяркуючы па аплаце яго працы, вышэй, чым обер-пракурора Сінода, губернатара, обер-сакратара сената, не кажучы ўжо аб "простых" сенатарах. На этапе існавання савецкай улады заўважана зніжэнне прэстыжа бібліятэчнай прафесіі. Сацыялагічныя даследванні, праведзеныя ў былым СССР напрыканцы яго існавання, паказалі, што толькі 2% вучняў старэйшых класаў з усіх апытаных лічылі гэтую прафесію прывабнай.

У нашай краіне бібліятэкары адчулі на сабе ўсе тыя метамарфозы і скажэнні, што пацярпела грамадства. Дзесяткі гадоў яны працавалі ў сітуацыі, калі і бібліятэкарам, і чытачам было вядома, што да вялізнай колькасці надрукаваных матэрыялаў доступу грамадзянам няма — не таму, што ў бібліятэках мала экземпляраў, а таму, што чытаць іх забаронена. Вырыванне кніг з рук чытача ўваходзіла ў кола прафесійных абавязкаў.

Зробім экскурс у мінулае.

Пасля Кастрычніцкага перавароту, партыя стварыла ідэалагічную машыну, якая павінна была кіраваць псіхалогіяй і мысленнем "новых" людзей. Нічога старога, хай нават вельмі вялікага, не павінна было прасачыцца ў мазгі будаўнікоў камунізму. Пачалася культурная інквізіцыя, на чале якой стаяла Н.К. Крупская. Узяўшы на сябе справу асветніцтва ў Расеі, яна выдала адзін за другім тры цыркуляры, у якіх пад забаронай аказалася лепшая літаратура стагоддзя:

— не выдавалі С. Ясеніна ("носьбіт рэлігійна-патрыярхальнай у спалучэнні з вулічнай псіхалогіі");

— забаранілі Ф. Даставеўскага ("носьбіт шкодных махрова-кансерватыўных поглядаў, схільнасць да стварэння паталагічных вобразаў");

— абвяргалі А.Блока ("прадстаўнік упадніцкай буржуазнай культуры дэкадэнцкага толку");

— перакрэслілі А.Фета ("махровы прыгоннік, якога не любіў Ленін").

Пад забаронай аказаліся Булгакаў, Платонаў, Ахматава, Гумілёў, Цвятаева, Валошын. З абурэннем піша М.Горкі ў лісце да У.Хадасевіча ў лістападзе 1923 года: "Из новостей, ошеломляющих разум, могу сообщить, что в России Надеждой Крупской запрещены для чтения Платон, Кант, Шопенгауэр, Вл.Соловьев, Тэн, Рэскин, Ницше, Лев Толстой, Лесков".

Бібліятэкараў абавязвалі кнігі "шкодных" аўтараў "выводзіць з чытацкага абароту". Прафесія бібліятэкара станавілася злачыннай і ў той жа час вельмі патрэбнай новай уладзе для паспяховай класавай барацьбы. Нездарма ж Крупская катэгарычна заяўляе: "...библиотекарей и учителей надо подбирать с большой осмотрительностью, ибо главное в библиотекаре и в учителе не талант, не душевные качества, а классовый подход к человеку и книге".

Культурная інквізіцыя пайшла гуляць па неабсяжнай савецкай імперыі. На Беларусі забарона чытання ўзмацнялася па меры страты яе незалежнасці. Колькасць забароненых для чытання кніг з кожным годам узрастала не таму, што расла сусветная забароненая для нас прадукцыя, а таму, што патокам "перацякалі" айчынныя кнігі з фонду даступнага ў фонды недаступнага. Зусім бессэнсоўным успрымаецца цытаванне даўніх слоў правадыра аб славе публічнай бібліятэкі, якая ў тым, "как широко обращаются книги в народе, как быстро удовлетворяется любое требование на книгу". Але кнігі шырока абарачаліся толькі тыя, што прапісаны ідэолагамі. А "любые требования" — гэта ўжо проста хлусня для бібліятэкараў, якія ведалі інструкцыі пачатку 20-х гадоў па перагляду каталогаў і фондаў бібліятэк з доўгімі пералічваннямі тыпаў літаратуры, якую належала знішчыць. У адной інструкцыі 1923 года, падпісанай Н.К. Крупскай, з жалем адзначалася, што "библиотеки наиболее устойчивы при свертывании разных старорежимных учреждений и поэтому их надо старательно чистить от контрреволюционной и вредной литературы". Складаліся спісы "шкоднай рэлігійнай" і проста "шкоднай" літаратуры, якую па вялізнай краіне кожны трактаваў, як хацеў. Для навуковых бібліятэк былі невялікія паслабленні, але тлумачыліся: "конечно, и из таких библиотек должны быть изъяты вредные книги, а один или два экземпляра под строжайшей ответственностью заведующих могут быть оставлены лишь для специальной и научной работы".

Гэта значыць, што ўжо ў 20-я гады права на кнігу прыходзілася спецыяльна даказваць, абгрунтоўваць перад не заўсёды адукаваным загадчыкам. З інструкцыі:"Такие книги должны содержаться в особо запертых шкафах... На эти книги должны быть составлены специальные каталоги, их можно выдавать только в необходимых случаях". Так узнікалі спецыяльныя сховішчы.

У зборніку з аптымістычнай назвай "Укрепим библиотечное дело" (1929 год) выказваецца трывога, што даследванне ў 1927 годзе паказала — выключаныя з фондаў бібліятэк — кнігі "остаются в большинстве случаев в самих библиотеках или сваливаются на чердак. Благодаря тому ... часто продолжает распространяться контрреволюционная и устарелая литература". У сувязі з гэтым "изъятие сводится на нет"... "В городах изъятая литература лежит тяжелым балластом, загружая и без того тесные помещения, и ждет, чтобы к ней приложили руки".

Цяжка чытаць гэтыя дырэктывы, тым больш, што на Беларусі людзі здаўна "прыкладвалі рукі", каб нешта зрабіць станоўчае. Тут жа ідзе гаворка пра знішчэнне духоўнага багацця. Чытаем далей: "необходимо оживить работу по изъятию книг, придавая ей систематический характер". Акрамя таго "в целях ускорения этой работы" склад спецыяльных камісій прапанавалася "пополнить представителем от местных органов ОГПУ и всю работу завершить не позже 1 мая 1928 года. Для просмотра отдельных групп книг важно иногда (у адрозненне ад пастаяннага члена ОГПУ — Л.Д.) привлекать специалистов".

Такім чынам, бібліятэкар непасрэдна звязаў сваю дзейнасць з кіраўніцтвам мазгамі адных і знішчэннем спадчыны другіх. Як бы шырока не апавяшчалася ў дэкрэце 1920 года, што дзяржаўныя публічныя бібліятэкі — Петраградская і Маскоўская — камплектуюцца на асобных высновах, — агонь ужо пайшоў гуляць. Пачала дзейнічаць ідэя ўсеагульнага кіраўніцтва чытаннем. Літаральна былі ўспрыняты словы Н.К.Крупскай: "Нам надо строить свою, по сути дела совершенно другого типа библиотеку". І будавалі.

Культурная сітуацыя на Беларусі ў 20-я гады, здавалася б, складвалася станоўча. Не заўсёды апаратыўна даводзіліся гэтыя інструкцыі да бібліятэк, а часам і не выконваліся. Бібліятэкары ўключаюцца ў вырашэнне сваіх грамадскіх праблем: адрадзіць нацыянальныя асновы ў Савецкай Айчыне, спрыяць распаўсюджанню беларусізацыі. Яны дбаюць аб набыцці беларускіх падручнікаў у сувязі з увядзеннем навучання на беларускай мове, ідуць побач з настаўнікамі на курсы перападрыхтоўкі, нясуць працоўнаму люду кніжкі маладых беларускіх пісьменнікаў, сяброў аб'яднанняў "Узвышша" і "Маладняк", удзельнічаюць у стварэнні аматарскіх тэатральных згуртаванняў. Усяму гэтаму садзейнічала палітыка Беларусі Наркамасвет узначаліў работу па адраджэнню самасвядомасці беларускага народа. Дзеля распрацоўкі навуковай беларускай тэрміналогіі ў 1921 г. пры Наркамасвеце створана Тэрміналагічная камісія; з 1922 года працуе інстытут беларускай культуры, які затым быў рэарганізаваны ў Беларускую Акадэмію навук.

У 1924 годзе статус дзяржаўных моў набываюць беларуская, руская, яўрэйская і польская. Бібліятэкі, школы, ВНУ, Акадэмія Навук, установы, прадпрыемствы сталі працаваць на беларускай мове; на ёй выходзяць усе газеты — раённыя, абласныя, рэспубліканскія. У 20-я і першай палове 30-х гадоў ніхто і думкі не дапускаў, што Вярхоўны Савет ці Урад могуць працаваць на нейкай іншай, а не на роднай мове. У 1927 - 1928 гадах на Беларусі дзейнічала 4941 беларуская школа, астатнія 530 — рускія, украінскія, яўрэйскія, польскія, літоўскія, латышскія і адна эстонская. Але мацнее, набірае сілы камандна-адміністрацыйная сталінская сістэма, якая ўспрымае беларускую інтэлігенцыю, як ворага, а рост нацыянальных кадраў — як нацыяналізм. У вярхоўных улады планецца генацыд у дачыненні да беларускага народа.

Чытаем "Оперативный приказ народного комиссара внутрених дел СССР №00447 от 30 июля 1937 г. гор. Москва. "Об операции по репрессированию": "...приказываю с 5 августа 1937 года начать во всех республиках, краях и областях операцию по репрессированию". Складзены спіс усіх рэспублік з кантрольнымі лічбамі, колькі асудзіць "тройкамі" — па першай катэгорыі (растрэл), па другой, па трэцяй. Па маленькай Беларусі — гэта адпаведна 2000, 10 000, 12 000 чалавек. У адзін год было знішчана беларускіх пісьменнікаў каля 200 чалавек. У адзін дзень — 29 кастрычніка 1937 г. — былі растраляны Платон Галавач, Васіль Коваль, Анатоль Вольны, Ізі Харык. Кнігі іх былі адлучаны ад бібліятэчных фондаў і знішчаны. Увогуле бібліятэкі былі пазбаўлены твораў 128 пісьменнікаў, у тым ліку кнігі Цішкі Гартнага (першага Старшыні Саўнаркама Беларусі!), Максіма Гарэцкага, Міхася Зарыцкага, Андрэя Мрыя і інш. Яны засталіся толькі ў спецсховішчах трох бібліятэк — Нацыянальнай бібліятэкі (былой "Ленінкі"), Урадавай і Акадэмічнай. Жорсткай чыстцы былі падвергнуты творчыя саюзы. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны ў саюзе пісьменнікаў Беларусі засталося толькі 40 чалавек з 320.

Для фондаў бібліятэк пагібельным стаў загад Галоўліта БССР пад нумарам 33 ад 3 чэрвеня 1937 года пад назвай "Спіс літаратуры, якая падлягае канфіскацыі з бібліятэк, грамадскага карыстання навучальных устаноў і кнігагандлю". Гэты спіс "шкодных кніжак" заняў 111 старонак. Загад тлумачыў, як быць з канфіскаванай літаратурай: "рабіць знішчэнне шляхам пропуску праз рэзальныя машыны друкарняў. Макулатуру ў дробна парэзаным выглядзе здаваць на ўтыль. У райцэнтрах, дзе ў друкарнях няма рэзальных машынаў, прынятую літаратуру спальваць з адзнакай аб акце спалення". Спіс прысуджаных да знішчэння кніг у Беларусі налічваў 421 пазіцыю. У яго ўвайшлі кнігі Ф.Багушэвіча, М. Багдановіча, Я Купалы, паэмы "Тарас на Парнасе; тэрміналагічныя слоўнікі, даведнікі, граматыкі, чытанкі, падручнікі, навучальныя дапаможнікі, мовазнаўчыя працы.

Спісы выдаваліся пад распіску дырэктарам бібліятэк і кнігарняў. Бібліятэкары павінны былі пільна пераглядзець паліцы, адабраць гэтыя "шкодныя" кнігі, скласці на іх акты і разам з актамі здаць начальнікам акруговых, гарадскіх ці раённых аддзелаў Галоўліта. У бібліятэчных каталогах і картатэках канфіскаваную кнігу выкрэслівалі тушам.

Пачыналася адцуранне ад нацыянальнай культуры, ад мовы. Бібліятэкі пачалі ператварацца ў дадаткі ідэалагічных устаноў. Бібліятэкары страчвалі прафесіяналізм, які стаў ужо непатрэбным. А дырэктывы з Масквы працягвалі паступаць. Гінула інтэлігенцыя. У навуковыя бібліятэкі прыйшоў "масавы" чытач. Удумаемся ў параду Крупскай з яе артыкула "Очередные задачи научных библиотек": "...научить человека разбираться в книге, как книжку изучить, как делать выписки, вообще, как работать с книгой". Дык як жа далей павінны былі развівацца формы бібліятэчнага абслугоўвання, як павінен быў удасканальваць сваё прафесійнае майстэрства бібліятэкар, калі нават у навуковых бібліятэках патрабавалася вучыць чытача, як рабіць з кнігі выпіскі?

А бібліятэкар нічога не вучыў, бо сам тых навуковых кніг не разумеў і не павінен быў разумець. Пачалася дэвальвацыя прафесіяналізму. У розум бібліятэкара была ўведзена і стала неадкладнаю часткаю прафесіі ідэя ацэнкі кнігі з пункту гледжання яе шкоды ці карысці. Раней гэта было справай свецкай і духоўнай цэнзуры. Цяпер жа важнай рысай ідэі стала фармаванне ацэнкі кнігі без усялякіх аб'ектыўных крытэрыяў.

Загаду № 33 было наканавана доўгае жыццё. Ён захоўваў сілу дзесяцігоддзямі, толькі крышку змяняючы і ўдакладняючы лексіку. Так, замест слова "канфіскацыя" сталі ўжываць "ачыстка". І ўжо ў 1954 г. ЦК КПБ прымае пастановы "Аб ачыстцы бібліятэк, кніжных кіёскаў, магазінаў і баз ад састарэлай і палітычна шкоднай літаратуры" Прафесіяналізм бібліятэкара скіроўваўся на хуткую арыентацыю ў палітыцы, паслухмянасць і фізічныя высілкі па знішчэнню кніг, бо Галоўліт СССР рэгулярна выдаваў тамы "Зводнага спісу кніг, якія падлягаюць выключэнню з бібліятэк і кнігагандлёвай сеткі".

Перапынку ў бібліятэкараў амаль не было. У 1959 г. знішчалі творы членаў антыпартыйнай групы. У 1961 г. цэнзары праверылі 3000 бібліятэк і ў 629 з іх знайшлі крамолу. У справаздачы ЦК КПБ яны дакладвалі, што не ўсе бібліятэкары працуюць добрасумленна, бо прыйшлося дадаткова канфіскаваць 2351 кнігу і часопісы з бібліятэк. Асабліва дасталося бібліятэцы Вярэйкаўскага клуба ў Асіповіцкім раёне, дзе не былі "ачышчаны" фонды ад кніг Маленкова ( аж 11 кніг), Булганіна, Кагановіча, Шэпілава.

Бібліятэкары стараліся "выпраўіцца" і працаваць "добрасумленна". Асаблівыя стараннi не спатрэбіліся, бо пасля шматгадовых рэгулярных чыстак у фондах заставалася толькі "карысная для пабудовы камунізму" літаратура. Бібліятэкары паслядоўна прапагандавалі мастацкую ленініяду, творы правадыроў, кніжкі, услаўляючыя калектывізацыю і калгаснае будаўніцтва, новабудоўлі стагоддзя і не задумваліся асабліва аб страце цэлага пласта беларускай культуры, сваёй нацыянальнай памяці. Кнігі ацэньвалі па аднаму прынцыпу: ці дапамагае той ці іншы твор камуністычнаму выхаванню чытача (без уліку яго ўзросту, полу, узроўню адукацыі).

І хоць многа гаварылася аб дыферэнцыяваным падыходзе да абслугоўвання чытачоў, але гэта была размова дэкларацыйная. Была знішчана аўтаномія бібліятэкі як культурна-асветніцкага цэнтра, а сам бібліятэкар аказаўся "бойцом идеологического фронта".

Такім чынам, сапраўды, асновы "савецкай бібліятэчнай справы" былі закладзены, як і пададзена ва ўсіх падручніках, у першыя пасляў рэвалюцыйныя гады. Пад уплывам пералічаных фактараў у бібліятэкара сфармавалася пэўныя адносіны да кнігі, да чытача, негатыўная прафесійная спадчына заяўляла аб сабе.

*(Заканч. у наст. нумары)*

